



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

8 верасня 2017 года №36 (1167)




# Хочаце багаты ўраджай бульбы – раз на тры гады мяняйце насенне

старонка 21

Фота Наталлі ТУР

## У Маладзечне ідзе аптымізацыя кадраў райвыканкама

МАЛАДЗЕЧНА

**У пачатку года Аляксандр Лукашэнка даў даручэнне дэталёва прапрацаваць аптымізацыю сістэмы дзяржаўных органаў. Яна закранула таксама мясцовыя райвыканкамы.**

Былі распрацаваныя два накірункі аптымізацыі. Па-першае, арганізацыям далі магчымасць прааналізаваць работу і пазбавіцца ад дублюючых функцый альбо перадаць іх іншым арганізацыям.

### Зменшылі колькасць работнікаў пенсійнага ўзросту

– Паводле гэтага напрамку, колькасць работнікаў райвыканкама скарацілася на 15%, – адзначае начальніца аддзела арганізацыйна-кадравай работы Маладзечанскага райвыканкама **Таццяна Шафаловіч**. – Аднак людзі не пацярпелі, бо

**зменшылася колькасць работнікаў пенсійнага ўзросту. Калі на пачатак года іх у райвыканкаме працавала каля 13%, цяпер 3,5%.**

Таксама з пачатку паступова вырашалася пытанне, якія функцыі можна перадаць іншым арганізацыям, а таксама падумаць, за якія галіны дзейнасці мог адказваць адзін работнік.

Другі накірунак прадугледжваў вывад спецыялістаў з дзяржслужбы.

– Ніхто з работнікаў не пацярпеў, – заспакойвае Таццяна Міхайлаўна. – Усім прапанавалі работу без выканання дзяржаўна-распарадчых паўнамоцтваў. Па гэтым напрамку колькасць дзяржслужбоўцаў зменшылася крыху больш чым на 18%.

### Якія змяненні адбыліся ў складзе райвыканкама

Намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Алег Хлебавец**, які курыруе пытанні жыллёва-камунальнай гаспадаркі, цяпер таксама вырашае пытанні архітэктуры, будаўніцтва, землеўпарадкавання і землекарыстання, геадэзіі і картаграфіі.

Начальнікам упраўлення справамі райвыканкама прызначаная **Анжэла Дрозд**. Раней яна была галоўным спецыялістам па кадрах упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама. Намеснікам начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва прызначаны **Славамір Зубрыцкі**.

Абнавіўся амаль увесь кіруючы склад упраўлення па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва Маладзечанскага райвыканкама.

Цяпер пытанні пенсійнага і матэрыяльна-бытавога забеспячэння будзе курыраваць **Людміла Пажарыцкая**, пытанні працоўных адносін – **Людміла Місуна**.

Выйшлі ў адстаўку кіраўнікі Лебедзеўскага і Чысцінскага сельскіх выканаўчых камітэтаў. Выконваць абавязкі кіраўніка ў Лебедзева будзе **Тамара Дудзіч**, якая раней працавала загадчыцай сектара аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама.

Выконваць абавязкі кіраўніка ў Чысці прызначаны **Павел Філістовіч**. Раней ён быў дырэктарам гандлёвага дома "Забудова".

Трэба зазначыць, што аптымізацыя кадраў Маладзечанскага райвыканкама будзе працягвацца і далей, да канца года.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## Запрашаюць на асвячэнне брацкіх магіл у Навасёлках

ВІЛЕЙКА

Шаноўныя сябры, на Навасёлкаўскіх могілках на Вілейшчыне заканчваецца аднаўленне дзвюх брацкіх магіл. У іх пахаваныя жыхары вёсак Навасёлкі і Батурына.

Людзей закатавалі невядомыя бандыты ў 1942 годзе. Асвячэнне аднаўленых магіл адбудзецца ў суботу, 16 верасня, а 12 гадзіне.

Малебен па загінулых і асвячэнне іх магіл правядуць айцец Міхаіл і ксёндз Анатоль. На мерапрыемства запрашаюцца ўсе, хто хоча аддаць даніну памяці нявінна загінулым людзям.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**каардынатар мерапрыемства.**

МАЮ ПРАВА

# Кіраўніцтва СВК "Хажова": "Калі атрымаем рашэнне суда, тут жа выселім сям'ю"

МАЛАДЗЕЧНА

**У мінулым нумары газеты мы пісалі пра сям'ю Вольгі і Валера Беглякоў з Хажова. Іх па рашэнні суда высяляюць са службовага жылля.**

Валер і Вольга расказалі, што не думалі, што кіраўніцтва СВК дойдзе да такіх мераў, каб высяляць сям'ю з трыма дзецьмі з дома.

Аднак у дырэктара СВК "Хажова" **Уладзіміра Гнілазуба** і ў інспектара аддзела кадраў **Галіны Жахавец** зусім іншае меркаванне. І іх меркаванне падмацоўваецца дакументамі.

Сустрэчу з карэспандэнтам "Рэгіянальнай газеты" ініцыяваў Уладзімір Гнілазуб.

– Мы прачыталі ваш матэрыял, і нам стала так крыўдна, што вы нас выстаўляеце нейкімі нелюдзямі. Маўляў, дзяцей не шкадуем. Але ж колькі раз мы даравалі Валеру прагулы і тое, што ён прыходзіў на працу ў нецвярозым стане. Мы гатовыя сустрэцца і ўсё патлумачыць вам на пальцах.

У СВК нас чакала інспектар па кадрах Галіна Жахавец са стосам дакументаў і з нумарам газеты, дзе на палях былі пазнакі, пытальнікі і клічнікі.

– Не, ну гэта проста дзіва. Пасля таго, што мы зрабілі для гэтай сям'і, у іх хапіла нахабства яшчэ скардзіцца. Валер вам расказвае, што прасіў павысіць заробак, таму і пасварыўся з нашым Уладзімірам Паўлавічам, але гэта не так.

Галіна Іванаўна расказала, што сям'я Беглякоў прыехала ў Хажова тры гады таму.

– Муж і жонка ўладкаваліся на працу ў СВК. Яна – даяркай. Ён – трактарыстам. Нічога не хачу сказаць, працавалі добра, пакуль разнаёміліся з мясцовымі. Вольга папрацавала ў нас год і два месяцы, Валер – два гады і тры месяцы. А потым пачалося.

Галіна Іванаўна дастае папку з актамі, характарыстыкамі, загадамі, дакладнымі.

У іх зафіксаваныя ўсе парушэнні з боку Вольгі і Валера.

– Вольга на ранішнюю дойку неяк прыйшла з пахам алкаголю. Праверылі на алкатэстары, ён паказаў 2,5 праміле алкаголю. І гэта ў 4:30 раніцы! А калі ўладкоўвалася да нас, гаварыла, што трапіла ў рай, бо ў нас дойка два разы на дзень: раніцай і вечарам. А ўвесь астатні час вольны. Рабі, што хочаш. Вось яна і рабіла, што хацела. Звольнілі па артыкуле. Потым Вольга аформіла дапамогу па доглядзе за дзіцем-інвалідам. І на працу больш не ўладкоўвалася.




Наверх на Вользіны дакументы Галіна Іванаўна працягвае класці дакументы Валера.

– Вось усе дакладныя на яго тут. Калі з'явіўся на працу ў нецвярозым стане, як абражаў калег. І зноў наш Уладзімір Паўлавіч пайшоў яму насустрач. Перавёў у жывёлагадоўцы.

У маі Валер без прычыны не прыйшоў на працу. Яму прапанавалі звольніцца.

– Ён пасля прыходзіў да нас, каяўся, казаў, што яму сорамна. Мы гаварылі, ідзі прасіся да дырэктара, можа, пакіне на працы. Не пайшоў. А дырэктар усё адно яго звольніў па ўласным жаданні, не па артыкуле. Казаў: "Ну што мы будзем чалавеку лёс ламаць, хай працуе, уладкоўваецца, у яго ж дзеці".

У СВК расказваюць, што пасля таго, як Валер звольніўся і ішла судовая справа, у гаспадарцы яшчэ месяц была вакансія трактарыста.

– Напэўна, Валер думаў, што суд вынесе прысуд на яго карысць, – разважае Галіна Іванаўна, – таму і не спяшаўся вяртацца. А калі прыйшоў прасіцца назад, мы ўжо ўзялі чалавека. Позна.

Што будзе з сям'ёй, калі рашэнне суда ўступіць у сілу, у СВК адказваюць катэгарычна:

– Будзем высяляць разам з судовымі выканаўцамі ці, калі спатрэбіцца, з міліцыяй. У нас вакансіі даяркі, агранома, інжынера не закрытыя. Як толькі прыедуць працаваць сюды людзі, нам трэба даць ім жыллё. Што будзе з сям'ёй Беглякоў? Гэта ўжо не нашы праблемы. Хай наймаюць жыллё, пра дзяцей хай турбуюцца ў школе. Мы дапамагалі, колькі маглі.

**Наталля ТУР.**

# Сёння нарэзаў сто за раз

## У сябе на дварышчы Леанід Кулеш вырошчвае баравікі

ВІЛЕЙКА

**На лецішча ў Пляшчаны, што ў Вілейскім раёне, аўтамеханік Леанід Кулеш прыязджае з Мінска. Працуе на зямлі, каб вырасціць для сваёй сям'і садавіну, гародніну і... баравікі.**



Фота забяспечана Леанідам КУЛЕШОМ.

На лецішчы Леанід Кулеш вырошчвае садавіну, агародніну і грыбы.

Вырошчванне грыбоў Леаніда цікавіла даўно. Хацелася, але не ведаў як, кажа субяседнік.

### У лес хадзіў за старымі грыбамі

Нарэшце пачытаўшы адпаведную літаратуру, вырашыў паспрабаваць. Калі ішоў у лес, браў не толькі прыгожыя маладзенькія баравічкі, але і старыя. Такія, якія ўжо не станеш есці, бо пакуль данясеш з лесу дамоў, яны "закіснуць".

Баравікі – трубчастыя грыбы. У старых трубачкі лёгка аддзяляюцца. Гэтыя трубачкі разам са спорамі Леанід размочвае ў цёплай вадзе, а потым вылівае раствор пад дрэвы ў сябе на ўчастку.

**Адзіная ўмова – стараецца браць грыбы з лісцёвага лесу.**

Глядзіць, каб лясная мясціна была падобная да мясціны на лецішчы. Калі пасадзіць грыбы з хваёвага лесу, могуць і не вырасці пад лісцёвымі дрэвамі, кажа Леанід.

Як варыянт – можна закапаць смецце пасля чысткі грыбоў пад мох у сваім двары. На карэньчыку, які мы адразаем, захоўваюцца споры.

**І калі ачысткі вы выкінеце не на сметнік, а да сябе ў двор, грыбы, магчыма, вырастуць і ў вас.**

А пад дрэвамі на лецішчы ў Пляшчанах баравікі растуць ужо каля 30 год. Спачатку вырасла 10, пасля – 20. Сёлета мужчына ўжо зразае па 40-50 за раз. А на гэтым тыдні пабіў апошнія рэкорды: сабраў два кашы – роўна сто баравікоў.

### Баравічкі для ўнукаў

– Сям'я ў мяне вялікая, – кажа Леанід. – Дзеці, унукі. Усяго дзесяць чалавек. Так што ўвесь ураджай грыбоў з'ядаем.

З маладых баравікоў у сям'і вараць супы. Грыбы таксама сушаць, замарожваюць.

– Сто баравікоў, якія сабраў на гэтым тыдні, хутчэй за ўсё, адварым і замарозім. Тады ўзімку яны будуць, як свежыя, – дзеліцца кулінарнымі сакрэтамі Леанід.

А сушаных, па словах гаспадара, яшчэ засталося з мінулага года.

З маёй заўвагай пра тое, што яму можна не хадзіць у лес у грыбы, Леанід не пагаджаецца.

– Адно другому не перашкаджае, – упэўнены гаспадар. – У лес таксама хаджу. Вось нядаўна падасінавікаў назбіраў.

### 30 год таму пра міцэліі не чулі

Цяпер у крамах разам з насеннем агуркоў і памідораў можна набыць міцэліі – насенне практычна любых грыбоў. Аднак 30 год таму, калі мой субяседнік толькі пачаў іх разводзіць, такой "экзотыкі" ні ў водной краме не было.

Пару год таму дзеля ўласнай цікавасці Леанід набыў міцэліі, але так і не скарыстаў іх. Навошта, калі ўсё і так атрымліваецца.

Больш фота на сайце Rh.by

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 31.08 | 7.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9335 | **1,9242** |
| Еўра | 2,3108 | **2,2960** |
| Злоты, 10 | 5,4184 | **5,4101** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2932 | **3,3543** |
| Грыўня, 100 | 7,5542 | **7,4036** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 30.08 | 6.09 |
| Еўра | 2.2900/2.3200 | **2.2800/2.3000** |
| Долар ЗША | 1.9200/1.9380 | **1.9200/1.9350** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 30.08 | 6.09 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **6,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,10** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,80 | **3,85** |
| Селядзец, 1 кг | 3,60 | **3,60** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,30 | **1,20** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,10 | **2,10** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,85 | **0,89** |
| Часнок, 1 кг | 5,95 | **5,95** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,59** |
| Капуста пекінская, 1 кг | - | **2,60** |
| Морква, 1 кг | 0,79 | **0,79** |
| Кабачкі, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | **3,50** |
| Дыня, 1 кг | 1,40 | **1,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 1,20 | **1,10** |
| Агуркі, 1 кг | 1,20 | **1,40** |
| Перац, 1 кг | 1,39 | **1,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,49 | **3,49** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,30 | **3,40** |
| Ківі, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Персікі, 1 кг | 2,99 | **2,89** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,70 | **3,50** |
| Слівы, 1 кг | 2,50 | **2,49** |
| Бананы, 1 кг | 1,49 | **1,69** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,99 | **1,39** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| Грушы, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **7,00** |

НАВІНЫ

## Алесь Юркойць асуджаны па справе ашмянскіх мытнікаў

АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ

**5 верасня ў судзе Партызанскага раёна Мінска абвешчаны чарговыя прысуды па справе ашмянскай мытні.**

Краязнаўца **Алесь Юркойць** асуджаны на сем гадоў зняволення. Ён належаў да той групы з чатырох мытнікаў, якія не прызналі віны і даказвалі, што яны не бралі хабар.

Былы галоўны інспектар з "Каменнага логу" **Аляксандр Лапейка** ў судзе прызнаў сваю віну часткова: пагадзіўся, што прапусціў 153 машыны з таварам і перадаваў грошы падначаленым. Суд прысудзіў яго да пяці год пазбаўлення волі.

Акрамя іх прысуды атрымалі **Аляксандр Швінта** (сем гадоў пазбаўлення волі), **Сяргей Чэпін** (пяць гадоў пазбаўлення волі), **Вадзім Казімірчук** (пяць гадоў пазбаўлення волі), **Дзмітры Курневіч** (11,5 года пазбаўлення волі), **Віктар Страпко** (пяць гадоў пазбаўлення волі), **Яўген Бабровіч** (пяць гадоў пазбаўлення волі), **Генадзь Часновіч** (пяць гадоў пазбаўлення волі), **Тадэвуш Высоцкі** (сем гадоў пазбаўлення волі), **Уладзімір Нагорскі** (пяць гадоў пазбаўлення волі).

На працэс прыйшлі дзясяткі людзей.

Нагадаем, што справа распачалася вясной 2015 года. Былі затрыманыя некалькі дзясяткаў супрацоўнікаў пункта пропуску "Каменны Лог". У дачыненні да мытнікаў тады завялі пяць крымінальных спраў, а злачынная група, паводле версіі следства, налічвала 58 чалавек.

У падазраваных канфіскавалі больш за 2,2 мільёна долараў наяўных.

Былы начальнік Ашмянскай мытні **Іван Ніваркевіч** быў асуджаны яшчэ ў снежні 2015 года. Ён атрымаў сем гадоў. Ніваркевіча прызналі вінаватым у хабарніцтве ў асабліва буйным памеры. А ў сакавіку 2016 года прысуд змянілі, скасаваўшы адзін год.

Суды над астатнімі мытнікамі пачаліся ў лістападзе 2016 года, мытнікаў судзяць у розных судах. Справу групы з Алесем Юркойцем разглядаў суд Партызанскага раёна. Юркойць абвінавачваўся ў атрыманні хабару 12,7 тысячы долараў. Сваю віну ён не прызнаваў.

Юркойць вядомы як грамадскі і культурны дзеяч, адзін з рухавікоў беларускага нацыянальнага жыцця на Астравеччыне. Праводзіў мастацкі пленэр, курсы "Мова нанова", паставіў помнік каліноўцам.

Трэба дадаць, што ад 1 кастрычніка Ашмянская мытня спыніць існаванне. У тым ліку, каб "увесь асабовы склад вынес вельмі сур'ёзныя ўрокі з шэрагу спраў", заявіў раней старшыня ДМК **Юры Сянько**.

**Паводле "Нашай Нівы".**

## Два маладзечанцы скралі за месяц 20 ровараў

МАЛАДЗЕЧНА

**22-гадовы і 16-гадовы маладзечанцы ад 6 ліпеня да 8 жніўня скралі ў сваім горадзе 20 ровараў.**

Старэйшы – раней судзімы. Вызваліўся сёлета ў канцы мая.

Малодшы – выпускнік адной з маладзечанскіх школ. Нідзе не вучыцца і не працуе.

Па словах старшага следчага РАСК **Юрыя Багушэвіча**, усе скрадзеныя ровары каштуюць больш за 6000 рублёў.

Шэсць з іх міліцыя вярнула ўладальнікам. Знайшлі яшчэ сем ровараў і дзевяць рам.

Старэйшага мужчыну заключылі пад варту. Малодшага пакінулі дома пад падпіску аб нявыездзе.

Грамадзяне, якія мяркуюць, што гэтыя злачынцы скралі іх ровар, могуць звярнуцца ў РАСК на адрас: Маладзечна, вул. Прытыцкага, д. 23, кабінет 111 і па тэлефоне 8(0176) 58-07-69. Можна звярнуцца ў РАУС на адрас: Маладзечна, вул. Галіцкага, д. 23, кабінет 321 або на лінію 102.

**Аксана ЯРАШОНАК.**





Машына, у якой загінулі смаргонец і віляйчанін.

# У аварыі ля Крыніцы загінулі двое

МАЛАДЗЕЧНА

**Раніцай 1 верасня ў Крыніцы адбылася аварыя, у якой загінулі двое мужчын.**

Інспектар ДАІ **Сяргей Бартош** расказаў "РГ" падрабязнасці здарэння:

– Аварыя адбылася ў 6 гадзін 10 хвілін на 67 кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач.

Па папярэдніх дадзеных, 47-гадовы вадзіцель аўтамабіля "Рэно-Лагуна" выехаў на сустрэчную паласу, дзе ўрэзаўся ў аўтамабіль "Мерсэдэс".

Ад удару вадзіцель, жыхар Смаргоні, і пасажыр, 38-гадовы жыхар Вілейкі, загінулі на месцы.

Яшчэ адзін пасажыр "Рэно" знаходзіцца ў рэанімацыі. Чацверты пасажыр не атрымаў ніводнай драпіны.

Вадзіцель "Мерсэдэса", 34-гадовы маладзечанец, дастаўлены ў траўматалагічнае аддзяленне.

Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**

## У мядзельскай радзільні памёр хлопчык

МЯДЗЕЛ

**Усю цяжарнасць 26-гадовай Ганне дактары казалі, што дзіця абсалютна здаровае.**

– Уся наша сям'я ў шоку, не можам перажыць гэту трагедыю. Аня дзевяць месяцаў выношвала здаровае дзіцятка, і так усё скончылася... – хвалюючыся распавядае TUT.BY **Ларыса**, цётка парадзіхі.

Ганне 26 гадоў. Хлопчык для іх з мужам доўгачаканы першынец. Усю цяжарнасць, кажуць сваякі, жанчына назіралася ў паліклініцы Мядзела, ніякай паталогіі не выявілі.

Літаральна напярэдадні родаў, 30 жніўня, даследаванні пацвердзілі: хлопчык здаровы.

– Цяжарнасць праходзіла выдатна, дактары паставілі тэрмін родаў на 1 верасня. Раніцай 30 жніўня ў дачкі пачаліся схваткі, у 6:30 мы ўжо былі ў прыёмным пакоі Мядзельскай ЦРБ, – распавядае **Крысціна Давідовіч**, мама парадзіхі. – Аню адразу паклалі ў перадродавую палацу, да абеду яна была там, а потым дактары вырашылі, што ёй пакуль яшчэ рана, і перавялі ў звычайную палату. 30 і 31 жніўня дачка так мучылася! Жывот балеў, спаць не магла. Каля пяці гадзін вечара 31 жніўня яе зноў перавodзяць у перадродавую палату, але ноччу 1 верасня схваткі скончыліся, і медыкі вырашылі дастаць дзіця абцугамі! Хлопчыка дасталі жывым, ён быў у коме, адразу ж адвезлі ў рэанімацыю, выклікалі рэанімабіль з Маладзечна. Дачцэ ўвялі наркоз, што было далей, яна не памятае.

Малы нарадзіўся ў 2:50 ночы, пражыў некалькі гадзін.

– Мы яго пахрысцілі проста ў рэанімацыі, назвалі **Мікітам**, – удакладняе Крысціна Давідовіч. – Я зразумець не магу, чаму Ані не зрабілі кесарава сячэнне? Дактары нічога не тлумачаць, толькі сказалі: "Пры нараджэнні такія выпадкі бываюць". Роды ў дачкі прымаў сам галоўны доктар, ён акушэр па адукацыі.

Вынікі ўскрыцця будуць вядомыя праз два тыдні. Сваякі ўжо напісалі лісты на сайт Міністэрства аховы здароўя і галоўнага ўпраўлення аховы здароўя Мінскага аблвыканкама. Пакуль ім ніхто не адказаў.

– Вы не з'яўляецеся законным прадстаўніком парадзіхі, то атрымаць інфармацыю не можаце. Гэта таямніца. Раю вам звярнуцца да Закона аб ахове здароўя і Закона аб зваротах грамадзян, – толькі сказаў TUT.BY **Зіновій Гозман**, першы намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення аховы здароўя Мінскага абласнога выканаўчага камітэта.

**Паводле tut.by.**

## Маладзечанца падазраюць у махлярстве

МАЛАДЗЕЧНА

Жыхар Маладзечна даваў у інтэрнэце аб'явы аб продажы мабільнікаў і запчастак для камп'ютараў.

Людзі замаўлялі ў яго рэчы, пералічвалі грошы. І чакалі тавар.

Аднак замоўленых рэчаў не атрымлівалі. У прадаўца іх нават не было. Атрыманыя грошы малады чалавек адразу траціў.

Ёсць звесткі, што ад дзеянняў маладзечанскага пацярпелі тры чалавекі з Гомеля, Калінкавічаў, Оршы.

Падазраваны **Ілля Талстой** (фота). Калі вас падмануў гэты чалавек, звяртайцеся ў РАСК Маладзечна на адрас: вул. Прытыцкага, д. 23, кабінет 116 або ў Маладзечанскі РАУС на адрас: вул. Галіцкага, д. 23, кабінет 313 ці па тэлефоне МТС **8-029-5682302.**



Пра гэта расказаў старшы следчы маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Замест кветак – сцяжкі

## Маладзечанскія школьнікі 1 верасня далучыліся да акцыі “Дзеці замест кветак”, каб дапамагчы Раману Куніцкаму

**У Дзень ведаў у многіх школах дзеці прыйшлі на заняткі не з букетамі, а са спецыяльнымі сцяжкамі, на якіх напісана “Дзеці замест кветак. Я дапамагаю дзецям”.**

17 жніўня Міжнародны дабрачынны фонд “Шанец” паведаміў пра акцыю “Дзеці замест кветак”.

Паводле яе, бацькам прапаноўвалі не набываць кветкі для настаўнікаў, а пайсці ў першы школьны дзень са спецыяльнымі сцяжкамі альбо паштоўкамі, зробленымі сваімі рукамі. А грошы, якія бацькі не выдаткавалі на кветкі, перавесці на рахунак дабрачыннага фонду.


Фота chance.by.

Рома Куніцкі.

Усе сродкі пойдуць на лячэнне сямігадовага **Рамана Куніцкага** з Глыбокага.

У хлопчыка нейрабластома (злаякасная пухліна) правага наднырачніка. Хлопчык ужо перанёс аперацыю, хіміятэрапію. Цяпер у Ромы рэмісія.

Наступны крок – імунатэрапія (тэрапія антыцеламі), якая дапамагае прадухіліць рызыку ўзнікнення рэцыдываў. На жаль, яе не робяць у Беларусі. Клініка Сен-Жуан дэ Дэу (Іспанія) гатовая прыняць Рому на лячэнне. Кошт тэрапіі і выдаткаў, звязаных з лячэннем (праезд, пражыванне, перакладчык) складае 93 тысячы еўра.

**Засталося сабраць 54 тысячы еўра.**

### Хто ў рэгіёне далучыўся да акцыі

У нашым рэгіёне да акцыі далучыліся жыхары Валожына, таксама вучні 3 “В” класа Чысцінскай сярэдняй школы, аднакласнікі Лебедзеўскай школы.

Найбольш актыўны ўдзел у акцыі прынялі вучні і бацькі сярэдняй школы №14 у Маладзечне, да яе далучыліся прадстаўнікі 2 “А”, 4 “Д”, 4 “Г” і 9 “Б” класаў.

Сярод маладзечанцаў таксама паўдзельнічалі шасцікласнікі гімназіі №3, 2”Б” гімназіі №7, вучні 2 “В” і 3 “Г” класаў сярэдняй школы №1.

У акцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі з Мінска, Баранавічаў, Барысава, Бабруйска, Віцебска, Гомеля, Гродна, Жодзіна, Кадзіна, Наваполацка, Рэчыцы, Слуцка і Салігорска.

### Як пералічыць грошы ў фонд “Шанец”

Акцыя завяршылася 5 верасня, ахвяраванне можна было зрабіць асабіста альбо ад класа. Нягледзячы на тое, што акцыя скончылася, пералічыць грошы на лячэнне хворых дзяцей можна і цяпер.

Робіцца гэта праз любы банк, а таксама праз сістэму АРІП (АРІП – Грамадскія аб’яднанні – Дапамога дзецям, дарослым – Фонд “Шанец” – Ахвяраванне на лячэнне дзяцей).

### Новую маштабную акцыю плануюць правесці ў лістападзе

– Акцыя “Дзеці замест кветак” была дастаткова паспяховая, – адзначае спецыяліст па сувязях з грамадскасцю Міжнароднага дабрачыннага фонду дапамогі дзецям “Шанец” **Настасся Шацько**. – Таму, магчыма, правядзём яе і налета. Мяркуем у лістападзе заклікаць людзей далучыцца да акцыі #ШчодрыАўторак.

**Гэта ініцыятыва нарадзілася ў 2012 годзе ў ЗША напярэдадні Новага года і Калядаў. Арганізатары хацелі нагадаць людзям аб шчодрасці і міласэрнасці.**

Апошні аўторак лістапада стаў днём, калі любы чалавек мог зрабіць нешта добрае на карысць дабрачынных арганізацый. Ініцыятыву падтрымалі і іншыя краіны свету.

#ШчодрыАўторак аб’ядноўвае людзей і дае магчымасць падзяліцца сваёй добрай справай з усім светам праз сацсеткі. Вынаходнікі ўжо даказалі, што такая адкрытасць і масавы ўдзел у дабрачыннасці прыносіць плён.

Па дадзеных дабрачынных арганізацый, у краінах, дзе праходзіла акцыя #ШчодрыАўторак, аб’ёмы ахвяраванняў у гэты дзень перавышалі аб’ёмы ахвяраванняў у іншыя дні.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**



Фота забяспечанае Марынай АЛЯШКЕВІЧ.

**Вучань 2 “А” класа сярэдняй школы №14 Маладзечна Іван Аляшкевіч першага верасня пайшоў у школу са сцяжком, а не з кветкамі. Да акцыі “Дзеці замест кветак” далучыўся увесь яго клас, а таксама настаўніца. Падчас дабрачыннай акцыі яны сабралі 290 рублёў.**

# Чтобы получить скидку в “Золотой мечте” и “Царском золоте”, молодечненцы скупили бижутерию в ближайших магазинах



**Многие магазины, чтобы завоевать покупателя, пестрят многообразием товаров, а также удивляют скидками.**

Но редкие из них готовы подарить клиенту больше эмоций, чем просто удовольствие от сэкономленных денег или радости от получения приза.

Ювелирные магазины “Золотая мечта” и “Царское золото” с помощью разнообразных благотворительных акций учат покупателя сопереживать, помогать, а также поверить – счастье в мелочах.

В прошлом году, купив фоторамку “Ангел” в ювелирных магазинах, вы могли облегчить жизнь детям-бабочкам, кожа которых настолько уязвима, что даже лёгкое прикосновение оставляет раны.

### Именно мелочи делают детей счастливыми

В этом году на протяжении июня в ювелирных магазинах проходила акция, во время которой можно было обменять бижутерию или часы на дополнительную скидку на покупку ювелирных украшений.

Все собранные изделия отдали в “Красный Крест”, а также в школу-интернат по улице Волынца в Молодечно.

– Понимаем, что бижутерия – это не товар первой необходимости, – отмечает заведующая магазинов “Золотая мечта” и “Царское золото” **Ирина Мисюра**. – Но в ту же очередь именно эти мелочи делают детей очень счастливыми. Нужно было видеть горящие глаза девочек в школе-интернате, когда они выбирали себе серёжки или браслеты; лица мальчиков, когда примеряли часы и от этого становились более важными. Даже взрослые люди, которые приходили в “Красный Крест”, удивлялись, что такую красоту отдают даром.

Всего в ювелирные магазины “Царское золото” и “Золотая мечта” в Молодечно принесли около 350 изделий. Среди них бусы, сережки-гвоздики, серьги с разнообразными мультяшными героями, браслетики, часы.

### Не могли поверить, что скидку можно получить так просто



Изначально многие люди не могли поверить, что скидку можно получить настолько просто, поэтому переспрашивали: “Нужно принести свои украшения?” Когда узнавали, что любые не драгоценные украшения в хорошем состоянии, оживлялись: “Это мы быстро”.

– Больше всего мы удивились, когда в “Царское золото” пришла удивленная работница магазина бижутерии и спросила: “Что у вас творится? Второй день люди сметают с полок бижутерию и сразу же бегут к вам!” – рассказывает **Ирина Мисюра**. – Тогда рассказали о акции и зачем нам нужна бижутерия. Продавцу понравилась идея, и сама поучаствовала, и покупателям рассказала.

Украшения в школе-интернат детям подарили в торжественной обстановке – на линейке в День знаний. Работники ювелирных магазинов в ответ получили самые драгоценные подарки – цветы, а также приглашения посещать все мероприятия, которые проводят в школе.




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1982 г.в., у рабочым стане, 500 руб. Т. (8-029) 8552646.
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- ГАЗ-2410, 1989 г.в., газ-бензін, 5-ступенчатая каробка перадач. Т. МТС (8-029) 5752803.*
- ГАЗ-3110, 2000 г.в., па запчастках, на хаду. Т. (8-029) 5183125.
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Мерсэдэс МВ-100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Пежо-205, 605, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- **ПЕЖО-5008, 2013 г.в., МІНІВЭН, З ГЕРМАНІІ. Т. (8-029) 6372633.***
- Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*
- ФВ-Вента, 1996 г.в., 1,9Д, па запчастках. Т. (8-029) 6232553.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Камплект летняй гумы на літых дысках для Пежо-405 R14. Т. (8-029) 5037346.*
- Рухавік ЯМЗ-236 з КПП спраўны, Д 245 1-й камплектнасці, ПАСАТ Б-2, 1,6Д, на ходу. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5589167.*

### КУПЛЮ

- Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Каталізатар б/у. Т.(8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

- **КУЗАЎНЫ РАМОНТ АЎТО** ад зваркі да паліроўкі. Высокая якасць і прыемныя цэны. ІП Шыцік П. П. УНП 191477481. Т. (8-044) 7640814, (8-0176) 703031.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, віброліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы 21,6/12,2/5,2 кв. м. Т. (8-029) 7558660, (8-0176) 778970.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, 9-56, 5 паверх, цана дагаворная. Т. (8-029) 7685126, (8-029) 2534684.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён завода "Зеніт", 29 кв.м, новыя шклопакеты і каналізацыйныя трубы. Т. (8-033) 6407773.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. 2746195*.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Машэрава, 2, 1/3 паверх. 35/19/11 кв. м з рамонтам. Тэрмінова! Т. (8-044) 4529416.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*
- 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Залессе, 10000 руб. Т. (8-029) 6125469,.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Валожыне па вул. Партызанскай. Т. (8-029) 1478232.
- Гараж у ГК-5Р Здземелева. Памер 4х6. Аглядная яма і два падвалы. Атынкаваны і пафарбаваны, 6400 руб. Т. (8-029) 1419072.*
- Дом драўляны з участкам 15 сотак у Мядзеле, 200 м ад возера Мястра. Т. Вэлком (8-029) 6111663.*
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом жылы ў в. Хатуцічы Лебедзеўскага с/с, смаргонскі накірунак. Ёсць хлеўчык, калодзеж. Т. (8-029) 8624022.*
- Дом жылы ў Маладзечне. Тэрмінова. Газ, водаправод. Т. (8-025) 5419235.*
- Дом з гаспадарчымі пабудовамі, падвалам, калодзежам (хутар) у в. Галінава, Куранецкі с/с. Т. (8-033) 6627867.*
- Дом у в. Клідзеняты, 18 сотак. Лазня, гараж, гаспадарчыя пабудовы, сад, калодзеж. Т. (8-01592) 37029, (8-029) 9439099.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

**ПОМОГИТЕ КОТУ вернуться домой!**



Кот крупный, серый, пушистый, "сибирский", белая манишка, косая белая полоска на носу, белые "носочки", глаза светло-зелёные. Кастрирован. Очень ласковый, но пугливый (на улице не бывал). Случайно выпустили **31.08.2017 из квартиры по ул. Будавников (Строителей), г. Молодечно.**
*Нашедшему – вознаграждение.*
МТС (8029) **872-93-63, 872-93-64,**
8(176) **55-42-49**.

- Дом у в. Савяцевічы, д.43 Валожынскага раёна з мэбляй. Тэрмінова. Т. МТС (8-033) 3007271.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом цагляны ў вёсцы М. Запруддзе Валожынскага раёна, 0,25 га. Цана 24 000 руб, торг. Т. (8-029) 8730880.*
- Участак 0,2 га, на беразе ракі Нарачанка, у в. Кузьмішкі Вілейскага р-на. На ўчастку ёсць дом, калодзеж, дзве гаспадарчыя пабудовы, электрыфікацыя 220. Поўны пакет дакументаў. Т. (8-029) 1748084.*
- Участак пад будаўніцтва дома ў в. Раеўшчына, газ, электрычнасць побач, 21 000 руб. Т. (8-044) 7006666.

### КУПЛЮ

- Дом у вёсцы, да 25 км ад Маладзечна. Т. (8-029) 8726517.



### МЯНЯЮ

- 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на дом. Т. (8-029) 9267289.

### ЗДАМ

- 3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, раён міліцыі. Т. (8-029) 2725907, (8-029)Т. (8-029) 2725907, (8-029)57930.
- Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*
- Кватэру на працяглы тэрмін. Т. (8-029) 5680426.



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вядучая на свята. Т. (8-033) 6228417.
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Мерсэдэс-Бэнц-Спрынтар суцэльнаметалічны да 2-х тон, даўжыня 4,20 м, горад, РБ, РФ. ІП Навойчык О.В. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Грузаперавозкі. Бус 1,5 тоны. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.

# Дамбы прадзіравіць, лоўлю забараніць:

## эколагі выступаюць за захаванне вугра

МЯДЗЕЛ

**Еўрапейская камісія прапануе забараніць лоўлю вугра ў Балтыйскім моры. Кажуць, за апошнія трыццаць год гэтай рыбы стала значна менш.**



- Вугор верны Саргасаваму мору некалькі стагоддзяў. Толькі тут ён нерастуе
- Самкі часцей жывуць у прэснай вадзе, самцы больш любяць салёную
- Вугор вядзе выключна начны лад жыцця. Удзень ён закопваецца ў глей
- Даўжыня рыбіны можа дасягаць да двух метраў, вага — да пяці кілаграмаў
- Злоўленага вугра не ўтрымаць у руках: ён вельмі дужы, вёрткі і слізкі
- Вугор не нерастуе ў няволі
- Маладыя вугры абсалютна празрыстыя і танчэйшыя за аловак

Мы звярнуліся да супрацоўнікаў Мядзельскай міжраённай інспекцыі, каб даведацца, як жывецца вугру ў азёрах нашага рэгіёна.

### Сто год таму перашкодаў у вугра не было

Па словах начальніка інспекцыі **Валерыя Кляноўскага**, вугры нараджаюцца ў Саргасавым моры. Самі прыплыць у Беларусь яны не могуць: буйныя рэкі Заходняя Дзвіна і Нёман перакрытыя дамбамі.

А год сто таму, да сур'ёзнага ўмяшальніцтва чалавека ў "жыццё" беларускіх вадаёмаў, вугор трапляў у азёры натуральным шляхам.

Ён насяляў беларускае Паазер'е, азёры нарачанскай групы. Цяпер увесь былы арэал яго знаходжання зарыбліваюць штучна.

– Словы пра тое, што вугры могуць доўга паўзці па мокрай зямлі ці траве – не больш, чым байкі, – кажа Валеры Альбертавіч. – Калі рыбіну кінуць на мокрую зямлю, яна папаўзе, але доўга не вытрымае.

### Мільёны празрыстых лічынак – у нарачанскія азёры

Дзяржава закупляе лічынак вугра за мяжой за вялікія грошы. А потым імі зарыбліваюць азёры Беларусі. Па словах Валерыя Кляноўскага, цяпер гэта робіць рэдка. Перш за ўсё, з-за матэрыяльных праблем.

Апошні зарыблення ў азёрах Мядзельшчыны былі ў 2004, 2005 і 2006 гадах.

– У 1980-1990-я гады нашы азёры зарыбліваліся мільёнамі празрыстых лічынак значна часцей, – кажа Валеры Кляноўскі.

Неяк у 1990-я летам стаяла жудасная спёка. У гэты час якраз запусцілі вугра ў азёры Мядзельшчыны.

Рыба цяжка пераносіла спёку. Здаралася, па берагах збіралі каля тоны мёртвых вугроў за суткі, прыгадвае мой субяседнік. Тады на азёры на доўгі час наклалі каранцін.

– Многія памылкова лічаць, што вугор занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, аднак гэта не так, – кажа Валеры Альбертавіч.

Забароненая толькі аматарская лоўля вугра. А прамысловая ў Беларусі дазволеная. Аднак і тут ёсць пэўныя праблемы.

Начальнік інспекцыі распавёў, што неяк лічынкай вугра зарыбілі возера Белае. Пра тое, што ў возеры няма ніякіх вытокаў для міграцыі гэтай рыбы, не падумалі. Аматарская лоўля была забароненая, цяпер забаранілі яшчэ і прамысловую. І куды падзецца беднаму вугру?

Вясной, распавёў Валеры Кляноўскі, у вугроў прачынаюцца натуральныя інстынкты. Вялікай плынню яны мігруюць праз Вілію і Нарачанку назад праз Балтыку ў Саргасава мора. Туды даплываюць з ікрой і размнажаюцца.

Па словах начальніка інспекцыі, вугор – драпежная рыба. Яго вострыя тонкія зубы мой субяседнік неяк адчуў на сваім пальцы.

### Еўрапейскія эколагі: да 2030 года можам застацца без вугроў

Вугор – від рыб, які выжыў з дагістарычных часоў, кажа дырэктар Цэнтра экалагічных рашэнняў **Яўген Лабанаў**. Уплыў чалавека на колькасць гэтай рыбы за апошнія дзесяцігоддзі стаў разбуральным.

Раней, па словах Яўгена, рыба была даволі распаўсюджаная ў большасці прыбярэжных зон, азёрах і ручаях рэгіёна Балтыйскага мора. Цяпер рыбы значна менш.

Яўген падзяліўся вынікамі даследаванняў, якія сведчаць, што, калі не будуць прынятыя меры, да 2030 года вугор можа знікнуць зусім.

Цэнтр экалагічных рашэнняў падтрымлівае забарону еўрапейскай камісіі на лоўлю. Такая забарона адаб'ецца на дабрабыце рыбакоў. Але, на думку еўрапейскіх экспертаў, нельга будаваць бізнес на рыбе, якой пагражае знікненне.

Больш за тое, эколагі з Еўропы лічаць, што варта ў дамбах зрабіць рыбаходы, каб у вугра не было перашкодаў міграваць натуральным шляхам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота iStock.**



Аляксандра Савельева ў дзень адкрыцця навукова-забаўляльнага цэнтра для дзяцей і бацькоў у Маладзечне. Фота забяспечанае Аляксандрай САВЕЛЬЕВАЙ.

# "Проста не веру, што ў Беларусі могуць жыць нешчаслівыя людзі"

## Сябры перабраліся з Варонежа ў Маладзечна, каб адкрыць бізнес

МАЛАДЗЕЧНА

**Напэўна, адна з рысаў беларусаў наракаць на жыццё ў сваёй краіне і не без долі зайздрасці глядзець на іншыя: "А вось там жа людзі жывуць, а ў нас…"**

Нам удалося пагаварыць з **Аляксандрай Савельевай**, якая на працягу двух гадоў ездзіць з Варонежа ў Маладзечна, аднак плануе застацца тут назаўсёды.

– Маладзечна падабаецца сваім спакоем, мернасцю, – дзеліцца варонежка. – Тут нават калі працуеш, не адчуваеш нейкай напружанасці, усё робіш у задавальненне і з энтузіязмам. У Варонежы, наадварот, усё настолькі імкліва, што не паспяваеш сканцэнтравацца. Ад хуткага тэмпу пад канец тыдня адчуваеш сябе, як выціснуты лімон.

### У Беларусі адкрыць бізнес прасцей, чым у Расіі

Дзяўчына працавала гідам-экскурсаводам, работа падабалася, аднак марыла працаваць з дзецьмі. Тады і ўзнікла ідэя стварыць навукова-забаўляльны цэнтр для дзяцей і бацькоў.

– У Варонежы такімі паслугамі перанасычаны рынак, – тлумачыць Аляксандра. – Таму вырашылі паспрабаваць у Маладзечне. Праездам я часта была тут, горад спадабаўся: малады, перспектыўны. У бізнесе такія гарады называюць рэсурснымі. Гэта значыць, што побач шмат невялікіх населеных пунктаў, у якіх няма разнастайнасці ў паслугах. Таму людзі прыязджаюць у вялікія гарады, каб затарыцца прадуктамі, весела правесці час, адпачыць. Параілася з будучым кампаньёнам і сябрам **Яўгенам Сакардзіным**, разам узважылі ўсе "за" і "супраць" і вырашылі – а чаму б тут і не адкрыць сваю справу.

Пра тое, ці цяжка весці бізнес у Беларусі, сябры нават і не задумваліся – загарэліся ідэяй і пачалі дзейнічаць.

**На сваім досведзе Аляксандра і Яўген адчулі, што значна прасцей, чым у Расіі. Напрыклад, афармленне дакументаў заняло літаральна тыдзень. А работнікі арганізацый заўсёды тлумачылі, як гэта зрабіць правільна.**

### Здзіўлялася, што на вуліцах ёсць дзеці

– Уражвае, што беларусы вельмі спагадлівыя і добразычлівыя, – дзеліцца адчуваннямі дзяўчына. – Куды б ты ні прыйшоў, табе дапамогуць, выслухаюць, параяць. У Расіі складваецца адчуванне, што, акрамя грошай, людзей нічога не цікавіць, ад гэтага яны сталі больш злымі. У Беларусі, наадварот, на вуліцах шмат людзей, якія ўсміхаюцца, ад гэтага і ў самой настрой ідзе ўгору. Таму я проста не веру, што тут могуць жыць нешчаслівыя людзі. Няшчасныя так не ўсміхаюцца.

Першы час у Маладзечне дзяўчыну вельмі здзіўляла, што на вуліцах шмат дзяцей. У Варонежы дзяцей проста не выпускаюць адных на вуліцу, толькі пад наглядам дарослых.

### Беларускае ў Расіі разбіраюць так хутка, што не паспяваюць раскладаць

Хаця Аляксандра і жыве два гады ў Маладзечне, аднак і да гэтага часу не можа ад'есціся беларускімі кілбасамі і малочнымі прадуктамі.

– У вас прадукты натуральныя, ад гэтага і смачныя, – дзеліцца варонежка. – Напрыклад, у Расіі ўсе ведаюць, што "Доктарскую" лепш не набываць, настолькі многа харчовых дадаткаў, што хімію можна вучыць. Беларуская вараная кілбаса іншая на смак, ясі – і есці хочацца.

У прыклад сваіх слоў яна ўзгадвае той факт, што ў Варонежы штотыдзень праходзіць кірмаш, на якім прадаюць беларускія тавары: трыкатажныя вырабы, малочныя прадукты, цукеркі і іншае. Прадукты разбіраюць настолькі хутка, што прадаўцы не паспяваюць раскладаць.

### Адчуванне, што ў буслоў ёсць спецыяльныя датчыкі

Толькі калі Аляксандра пажыла ў Беларусі, зразумела, чаму краіну называюць зямлёй пад белымі крыламі.

– З якога б боку ні ехала, заўсёды пазнаю, што ўжо ў Беларусі, – усміхаецца Аляксандра. – Як толькі перасякаеш мяжу, з'яўляецца безліч буслоў. Пры гэтым складваецца адчуванне, што ў птушак своеасаблівы датчык, які падказвае не ляцець за межы Беларусі.

За два гады Аляксандра настолькі палюбіла краіну, што і не думае, каб вяртацца на радзіму. Наадварот, у планах набыць жыллё ў Маладзечне і далей развіваць бізнес.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Першакласніца Варвара да першага ўрока гатовая.



## Дзённік мамы школьніцы: навучаюць цікава, кормяць смачна. Пакуль усё

МАЛАДЗЕЧНА

**Да школы рыхтаваліся адказна. Па суботах хадзілі на падрыхтоўку, у іншыя дні самастойна вучыліся чытаць.**

Праўда, са школьнай формай неяк не адразу ўсё атрымалася. Яшчэ ў маі нам аб'явілі пра тое, што пачатковая школа будзе мець сваю форму, агульную для ўсіх. У хуткім часе наладзілі прымерку.

Але тады мы яшчэ не ведалі дакладна, ці патрапім менавіта ў тую запаветную, бліжэйшую да дома, школу. Наступная магчымасць прымераць школьнае адзенне з'явілася толькі за тыдзень да першага верасня.

Сярод камізэлек, спадніц, сукеначак, штонікаў ледзь выбралі сарафан для нашай, такой яшчэ невысокай першакласніцы. Рост 122 быў самы маленькі з прапанаваных. Не ідэальна, але з таго, што было, падыходзіў найбольш.

Мусілі крыху падшыць шлейкі. Аднак у гэтым ёсць плюс: будзем паступова падаўжаць сарафанчык. Глядзіш, хопіць на ўсю пачатковую школу.

Пытанне "грошы хворым дзецям ці букет" вырашылі на карысць букета. Усё ж неяк нядобра першакласніцы ў першы дзень ісці без кветак для настаўніцы. Таму вобраз "белыя банты-блузка-сарафан" завяршыў белы гладыёлус.

На лінейку прыйшлі ўсёй сям'ёй. Асабліва радасна першакласніцы было сустрэць дзяўчынак з дзіцячага садка. Паабдымаліся, сфатаграфаваліся. І пачалося свята.

Праўда, тата і старэйшая сястрычка за шчыльнай сцяной з бацькоў і першакласнікаў мала што разгледзелі.

Затое нашай першакласніцы лінейка спадабалася. Свята было не зацягнутае, без доўгіх прамоў, таму маленькія ножкі стаяць не стаміліся.

Шмат музыкі, танцы, песні, тэатральная пастаноўка, яркія паветраныя шары, запушчаныя ў нябёсы. На вялікае шчасце першакласнікаў, на лінейку прыйшла агромністая раставая лялька ў выглядзе паўночнага белага мядзведзя. А напрыканцы – першы званок. Куды ж без яго?

Лінейка скончылася. Надышоў адказны момант: права першымі зайсці ў школу далі першакласнікам і іх настаўнікам. І тут пачалося самае цікавае.

У свае класы будучыя вучні дайшлі не ўсе. Вось ля 1 "Б" наўзрыд плача дзяўчынка.

– Не плач, – суцяшае настаўніца. – Як цябе завуць?

– Дааааша! – скрозь слёзы адказвае тая.

– У якім ты, Даша, класе?

– У пеееершым!

– У якім першым?

– Проста ў першым.

Ну адкуль той Дашы ведаць, што першых класаў сёлета ў школе цэлых шэсць?

Толькі разабраліся з Дашай, да калег падышла настаўніца з 1 "А":

– Ідзіце разбірайце сваіх вучняў. У нашым класе павінна быць 30 чалавек, а з лінейкі прыйшло 37.

Усіх знайшлі, усіх супакоілі. У тым ліку і бацькоў. Бо некаторыя мамы і таты адсталі ад дзяцей, чым былі даведзеныя да лёгкага шоку.

Пачаўся першы ўрок. На 1 верасня ў вучняў 1 класа ён быў і адзіным.

А потым надышлі выхадныя. Сёлета ж, дзякуй календару, Дзень ведаў прыпаў на пятніцу. Але такі расклад задаволіў не ўсіх.

– Мама, тата, хутчэй бы панядзелак, – і ў суботу, і ў нядзелю сумавала наша першакласніца.

А ў панядзелак дадалося яшчэ адно прыемнае адкрыццё: у школе, аказваецца, не толькі цікава навучаюць. Тут яшчэ і кормяць смачна!

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ад першага верасня на Валожыншчыне працуе пляцоўка для назірання за птушкамі

ВАЛОЖЫН

**Інклюзіўная пляцоўка па назіранні за птушкамі адкрыецца 1 верасня ў Валожынскім раёне, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-офісе ПРААН у Беларусі.**

Мясцовую ініцыятыву "Птушка ў аб'ектыве" рэалізуюць у Валожынскім сельскім выканаўчым камітэце па праекце "Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь", які фінансуецца Еўрасаюзам і рэалізуецца Праграмай развіцця ААН.

Ініцыятыва накіраваная на павышэнне турыстычнага патэнцыялу Валожынскага раёна праз развіццё экалагічнага турызму. У вёсцы Замасцяны створаны і абсталяваны першы аб'ект экалагічнага турызму для назірання за птушкамі.

Назіральная пляцоўка стане ўлюбёным месцам для аматараў і прафесійных арнітолагаў, якія пры дапамозе бінокляў і падзорных труб змогуць назіраць за вадаплаўнымі і каляводнымі птушкамі ў натуральным асяроддзі іх пражывання на беразе Сакавішчынскага вадасховішча.

Пляцоўку абсталявалі ўсім неабходным для фатаграфавання птушак. Назіральная пляцоўка размешчаная на зялёным турыстычным маршруце "Валожынскія гасцінцы", які дае магчымасць прайсці па экалагічных сцежках, праехаць па некалькіх веласіпедных маршрутах, спыніцца ў мясцовых аграсядзібах.

Пляцоўка па назіранні за птушкамі стане добрым дадаткам да гэтага турыстычнага маршруту. Цяпер мясцовыя жыхары і госці раёна змогуць займацца яшчэ адным відам экалагічнага турызму – бердвотчынгам. Выкарыстоўваючы магчымасці дадзенага аб'екта, школьнікі змогуць свае веды прымяняць на практыцы і выступаць у ролі экскурсаводаў. Назіральная пляцоўка з'яўляецца безбар'ернай, таму далучыцца да новага змогуць пажылыя людзі і людзі з інваліднасцю.

**Паводле БелТА.**



Фота забяспечанае Вольгай КОЛАСАВАЙ.

**Адзін з фотаздымкаў Алега Штэльмана.**

## На сустрэчу з фатографам, музыкам, паэтам запрашае вілейскі музей

ВІЛЕЙКА

22 верасня ў 15:00 супрацоўнікі музея запрашаюць на творчую сустрэчу з аўтарам фотаздымкаў, вершаў і музыкі.

У выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча зладзяць выставу "Афон-Мікравізантыя" протаіерэя **Алега Штэльмана**, настаяцеля Петрапаўлаўскай царквы ў горадзе Шаўляй у Літве.

Больш за 40 фотаздымкаў святара з Літвы пазнаёмяць наведнікаў з феноменам старажытнай манаскай рэспублікі.

Алег Штэльман нарадзіўся ў Вілейцы. Пасля заканчэння Мінскага будаўнічага вучылішча і службы ў войску працаваў на будоўлі электразваршчыкам. У якасці акцёра-аматара наведваў Мінскі маладзевы тэатр **Міхаіла Магілёўскага**.

У 1991 годзе кінуў усё і паступіў у Віленскі Свята-Духаў манастыр.

Фотаздымкай захапляўся яшчэ ў школе. Зараз здымае, піша вершы. Некаторыя з іх паклаў на музыку і сам спявае пад гітару. Друкуецца ў літоўскай перыёдыцы.

**Аддзел інфармацыі.**

# Трэба "вырубіць" Лёшу Кудзіна

## Маладзечанская спявачка расказвае пра здымкі першага кліпа

МАЛАДЗЕЧНА

**Памятаеце той сёлетні майскі дзень, калі раптоўна выпаў снег?**



Фота youtube.com.

**Таццяна Атрошанка: нягледзячы на ўвесь трагізм сюжэта, на здымках панаваў вясёлы настрой.**

У гэты дзень маладзечанская паэтка і спявачка **Таццяна Атрошанка** завяршыла здымкі свайго першага кліпа, які цяпер круцяць на беларускіх музычных каналах.

Увогуле праца над кліпам на песню "Калі б проста", па словах Таццяны, была зусім няпростай. Працаваць пачалі зімой.

– Здымкі доўжыліся тры дні і адну ноч, – смяецца Таццяна. – Прыгадваюцца асацыяцыі з "Тысячай і адной ноччу Шахеразады".

Па словах спявачкі, было зусім няпроста падабраць месца для здымак на прыродзе, бо якраз пачаліся моцныя маразы.

Нешта перашкодзіла ў вызначаны дзень зняць кадры на баксёрскім рынгу. Тады здымкі перанеслі на ноч Вадохрышча.

### Як Таццяна Атрошанка стала Кірай Трыш

Займацца песеннай творчасцю Таццяна пачала некалькі год таму. У 2013 годзе выйшаў яе дэбютны альбом "Унутры вялізнага горада", куды ўвайшло 11 музычных кампазіцый. На аснове гэтага матэрыялу Таццяна падрыхтавала і правяла два канцэрты ў некалькіх гарадах Беларусі.

У Таццяны цяпер не толькі новы кліп, а і новы творчы псеўданім – **Кіра Трыш**. Спявачка пакінула частку свайго сапраўднага прозвішча, сугучную з імем трыадзінага паганскага бажаства. У выніку атрымалася "Трыш".

А імя Кіра – нішто іншае, як вяртанне да каранёў.

– Калі я нарадзілася, імя Кіра было асноўным сярод тых, якім мяне хацелі назваць бацькі, – распавяла Таццяна. – А потым нейк вырашылі памяняць сваё рашэнне.

На думку Таццяны, першыя эмоцыі – заўсёды самыя правільныя. Таму і вырашыла ў сваім сцэнічным псеўданіме вярнуцца да Кіры.

Аднак паэткай мая субяседніца засталася па-ранейшаму Таццянай Атрошанкай. Здымкі кліпа ніяк не перашкодзілі паэтычнаму натхненню, і вершы пісаліся паралельна з працай на здымачнай пляцоўцы.

Калі прырода часам "падкідала" розныя праблемы ў выглядзе жудасных маразоў і снегу ў маі, то праблем з людзьмі падчас здымак не было, прыгадвае мая субяседніца. Узаемаразуменне было і з тымі, хто ў кадры, і з тымі, хто за кадрам: і з выканаўцам адной з галоўных роляў, уладальнікам агенцтва нерухомасці **Вадзімам Івановым,** і з маладым беларускім кліпмейкерам **Палінай Ждановіч**, і прадзюсарам **Сяргеем Ждановічам**.

Асаблівая тэма – акцёры. З беларускім спартсменам баксёрам **Аляксеем Кудзіным**, які сыграў адну з мужчынскіх роляў у кліпе, Таццяна добра знаёмая.

– Нейк падчас аднаго сумеснага свята на ўзроўні жартаў я загаварыла з Аляксеем пра здымкі кліпа, – прыгадвае Таццяна.

Аляксей не адмовіўся. Але баксёр у кліпе – гэта як ружжо, што павінна выстраліць, перакананая Таццяна. Калі ёсць баксёр – павінна быць бойка. І Аляксею знайшлі партнёра – спартсмена **Дзмітрыя Валента**.

– Калі мы прапанавалі Дзмітрыю зняцца ў кліпе, ён спытаў "што ад мяне патрабуецца?", – прыгадвае Таццяна.

**"Вырубіць" Лёшу Кудзіна" – адказалі яму. Дзмітры пагадзіўся. Гэта пры тым, што Лёша выступае ў суперцяжкай вазе, а Дзмітры – у сярэдняй.**



Фота facebook.com.

**Бойкі на пляцоўцы былі самыя сапраўдныя.**

Бойка была самая сапраўдная. Падчас здымак на рынгу мы нават неспадзеўкі ўскрыквалі, прыгадала Таццяна.

### Галоўным героем кліпа стаў... пярсцёнак

Для спартсменаў, чэмпіёнаў свету, здымкі – справа звычайная, кажа Таццяна. Гэта публічныя асобы. Як толькі яны чулі "камера працуе", адразу ўваходзілі ў ролю. Тым больш для Аляксея здымкі ў кліпе Таццяны – не першы акцёрскі досвед.

– Хоць, па сутнасці, сюжэт у кліпе трагічны – два лепшыя сябры закахаліся ў адну жанчыну, аднак здымкі кліпа адбываліся ў гумарыстычным рэчышчы, – дзеліцца Таццяна. – У самых сур'ёзных месцах нам раптам хацелася смяяцца. Нават кадры з сур'ёзнымі тварамі часам нялёгка было выбраць.

Хто галоўны герой кліпа? Як кажа Таццяна, гэта не Дзмітры, не Аляксей і нават не яна сама. Такім героем становіцца пярсцёнак, што з'яўляецца на працягу кліпа.

– Ён як сведчанне кахання, аднойчы надзеты на безыменны палец, раптам іграе сваю ролю, – лічыць Таццяна.

На яго паступова нанізваюцца сюжэты гісторыі кахання. Пярсцёнак – рэквізіт, вакол якога круціцца сюжэт.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**Даведка "РГ".**

**Таццяна Атрошанка** – беларуская паэтка, аўтар-выканаўца, лаўрэат прэміі "Залаты Купідон" у намінацыі "Песенны жанр". Песні гучалі на "Славянскім базары", "Дні беларускага пісьменства", "Нацыянальным фестывалі песні і паэзіі", "Дзіцячым Еўрабачанні", "Песні года Беларусі". Аўтар зборніка паэзіі "Не я". Вершы друкаваліся ў шматлікіх перыядычных выданнях.

# Чый герой Фёдар Маркаў?

## Маркаўцы забіралі нават сподняе і патрабавалі самагонку

*Працяг. Пачатак у №№34, 35.*

**МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ**

**Жыхарка Пастаўскага раёна Адэля К. распавядала наступнае:
"Ноччу ў наш дом уварваліся партызаны і ў грубай форме, выкарыстоўваючы нецэнзурныя выразы, патрабавалі даць ровар.
Калі я адказала, што ровара ў нас няма, то камандзір (у скураной курткі, падперазаны армейскай дзягай) стукнуў мяне дзяржальняй пісталета па галаве.**




Памятны знак на меркаваным месцы расстрэлу байцоў Арміі Краёвай партызанамі Фёдара Маркава.

Кроў з раны заліла мне ўвесь твар. Другі партызан дастаў з вінтоўкі шомпал і стаў біць мяне па спіне. Потым пачалі "вобыск", у выніку якога, акрамя прадуктаў харчавання, знайшлі і забралі ювелірныя вырабы (завушніцы, пярсцёнкі), жаночае споднае, адзежу і адрэзы тканіны на жаночыя сукенкі".

Самі партызаны такія акцыі называлі "бамбёжкамі".

**Падчас такіх "бамбёжак" яны забіралі ўсю маёмасць, напіваліся, а што не бралі, тое нішчылі.**

Таксама жыхарка вёскі Валожына-1 Пастаўскага раёна **Марыя Антонаўна Лапушынская** ўспамінала:

"У час акупацыі мы жылі звычайным жыццём – аралі зямлю, збіралі ўраджай, будавалі жыллё, нараджалі дзяцей. Старэйшыя хадзілі ў школу, некаторыя вучыліся ў іншых месцах.

Для збору падаткаў немцы назначылі на некалькі вёсак старасту.

Вёска знаходзілася паблізу вялікага лесу, у якім і знаходзіліся партызанскія, ці бандыцкія групы. Яны рэгулярна па начах наведвалі вёску і забіралі прадукты, адзежу і абутак. Пярэчыць ім было немагчыма, бо яны былі ўзброеныя і пагражалі забіць пры невыкананні іх патрабаванняў.

Аднойчы ў двор прыйшлі некалькі ўзброеных чалавек, адразу зайшлі ў хлеў і пацягнулі адзіную свінню. На руках – немаўля.

**На просьбы не страляць свінню пры ім, выстрал адбыўся адразу. Сынок уздрыгнуў і зайшоўся ад плачу, стала страшна".**

### Барацьба за самагонку

Успаміны жыхара гэтай жа вёскі **Міхаіла Мікадзімавіча Лапушынскага**:

"Было гэта пры канцы жніўня 1943 года. Адбывалася перадыслакацыя партызанскіх злучэнняў з Пастаўскага раёна ў Браслаўскі за раку Дзісна. У вёсцы часова размясціліся два партызанскія атрады. У адной палове вёскі размясціўся атрад Фёдара Маркава, у другой – атрад Віктара Манохіна.

Агульны сход вёскі праводзіў Манохін. Ён распарадзіўся выдзеліць падводы і накарміць партызанаў. Пры гэтым строга папярэдзіў сялян, каб ні ў якім выпадку не давалі партызанам самагонку.

Самагонку тады гналі адкрыта, некаторыя апараты стаялі проста на агародзе каля студні. Раніцай у хату зайшоў падвыпіўшы ўзброены чалавек і, пагражаючы вінтоўкай, патрабаваў прынесці самагонку. Жонцы перадаў кошык з яйкамі і крыкнуў, каб тая спякла яечню.

**Убачыўшы, што я не выходжу з хаты, закрычаў, што застрэліць, калі не дастану самагонку.**

Прыйшлося ісці да суседа. На дарозе, сустрэўшы кавалерыста, сказаў яму, што ў маёй хаце знаходзіцца ўзброены чалавек, ці то партызан, ці то бандыт, і патрабуе самагонку.

Кавалерыст хутка зайшоў у хату і вывалак за шкірку таго бандыта. На дапамогу падбег з саду таварыш нягодніка, але кавалерыст вырваў вінтоўку і пацягнуў п'янага партызана да свайго камандзіра Віктара Манохіна. Абодва дэбашыры аказаліся з атрада Маркава. Гэты выпадак не застаўся па-за ўвагай Манохіна. Адразу ў доме **Іосіфа Антонавіча Лапушынскага** быў сабраны сход аднавяскоўцаў. Выявілася, што самагонку "героі" здабывалі і ў іншых хатах. Віктар Манохін звярнуўся да Маркава:

– Я не понимаю, сам командир в деревне, а его подчинённые творят такое безобразие. За такие проступки я своих бойцов наказываю.

– А я своих воспитываю убеждением, – адказаў Маркаў.

У другой палове дня абодва атрады пакінулі вёску. Не адставалі ад Маркава і яго падначаленыя. Былы камандзір партызанскага атрада "Грозны" **Рыгор Крукаў** з брыгады Маркава, з вёскі Альцы Пастаўскага раёна з сям'і **Зіновія Крукава**, у часы нямецкай акупацыі арганізаваў узброеную групу. Пазней далучыўся да брыгады Маркава, дзе ўзначаліў атрад "Грозны", які дзейнічаў у ваколіцах Дунілавіч – Варапаева.

Вось што ўспамінаў пра тыя часы жыхар Наваполля **Каэтан Ражноўскі**:

"Вясной 1943 года я зноў паехаў у Наваполле (Пастаўскі раён), каб заняцца сельскай гаспадаркай. Прыбыўшы на месца, даведаўся, што ў наваколлі трывожна. Вельмі многа было забіта народу польскага паходжання, як былога дробнага чынавенства, так і простых сялян.

На тэрыторыі Дунілавіцкай гміны (як, дарэчы, і суседніх гмін) дзейнічаў атрад партызанаў пад камандаваннем "Грышы" (Рыгора Крукава). Маё становішча было невясёлым. Кожную ноч ці дзень мяне маглі забраць і расстраляць. Таму я вырашыў хутчэй засеяць поле і вярнуцца назад у Вільню...".

### Сяброўства "НКВД-Гестапа"

Яшчэ адзін вядомы камандзір з брыгады Фёдара Маркава – **Васіль Мікалаевіч Асененка**, нарадзіўся ў 1916 годзе ў вёсцы Ліпнікі таго ж Пастаўскага раёна. У 1939-1941 гадах працаваў у Вілейскім абласным упраўленні НКВД. У часы вайны – намеснік камандзіра па разведцы атрада імя Суворава. Затым – камандзір атрада "Слава" і адначасова сакратар Пастаўскага падпольнага РК камсамола.

Пасля вайны – намеснік старшыні Пастаўскага райвыканкама. У 1967-1971 гадах – першы сакратар Глыбоцкага райкама партыі. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і Герой Сацыялістычнай Працы (1966).

Як бачна з біяграфіі, ён да вайны паспеў папрацаваць у Вілейскім упраўленні НКВД. Што ж адбывалася ў Вілейцы і вобласці ў час, калі там працаваў Асенёнка?

**Ад верасня 1939 года і да 22 чэрвеня 1941 года ў Вілейцы было прыгаворана да расстрэлу не менш за 1 000 чалавек, а ўсяго па Вілейскай вобласці – каля 7 000 ні ў чым не павінных людзей.**

"Следства" па справах гэтых няшчасных праводзілі супрацоўнікі НКВД. Яны ж выконвалі прыгаворы, г.зн., расстрэльвалі. У 1940 годзе існавала таварыства савецка-нямецкага сяброўства "НКВД-Гестапа".

**Нават пасля пачатку вайны 24 чэрвеня 1941 года ў Вілейскай турме (за адзін толькі дзень) было па-зверску забіта (па розных ацэнках) ад 100 да 400 чалавек.**

Усе нашы "героі" не якія-небудзь чужынцы, а ўраджэнцы Пастаўшчыны.

**Сяргей КАСМАЧ,**
**Маладзечна.**
**Заканчэнне будзе.**

---

● КАЛЯНДАР

### 8 ВЕРАСНЯ

**Міжнародны дзень салідарнасці журналістаў.** Быў заснаваны ў 1958 годзе ў Бухарэсце, на 4 кангрэсе міжнароднай арганізацыі журналістаў. У гэты дзень журналісты ўсіх краін і выданняў павінны дэманстраваць свету сваю згуртаванасць, асабліва ў справе абароны сваіх праваў. Падставай для выбару даты дня паслужылі трагічныя падзеі. 8 верасня 1943 года ў Германіі быў пакараны смерцю чэхаславацкі журналіст, пісьменнік-антыфашыст **Юліус Фучык**. Ён стаў вядомы ўсяму свету сваёй кнігай "Рэпартаж з пятлёй на шыі", напісанай ім у засценках пражскай турмы. Пасля яго смерці кніга была перакладзеная на 70 моў свету, а з 1958 года дзень смерці Юліуса Фучыка стаў адзначацца як Міжнародны дзень салідарнасці журналістаў.

**Міжнародны дзень пісьменнасці.**

**1973 год.** Перакрытая рака Вялля, створанае самае вялікае ў Беларусі штучнае вадасховішча – Вілейскае.

**950 гадоў** з дня заснавання Мінска – упершыню згадваецца ў "Аповесці мінулых гадоў" сувязі з Нямігскай бітвай 1067 года.

### 9 ВЕРАСНЯ

**75 гадоў** з часу прыняцця (1942) пастановы Дзяржаўнага камітэта абароны СССР аб стварэнні Беларускага штаба партызанскага руху (дзейнічаў да 14 лістапада 1944 г.).

**1951 год.** Пад Маладзечнам дэсантаваўся **Янка Філістовіч**, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху. Праз год быў схоплены і расстраляны ў 1953 годзе.

### 11 ВЕРАСНЯ

**140 гадоў** з дня нараджэння **Фелікса Дзяржынскага**, дзяржаўнага і палітычнага дзеяча СССР. Нарадзіўся ў сям'і шляхціца, настаўніка гімназіі ў маёнтку Дзяржынава Ашмянскага павета. Яшчэ хлопцам, гуляючы са стрэльбай, выпадкова выстраліў у сваю сястру **Ванду**. Бацькі схавалі гэты факт, каб не ўскладніць сыну жыццё. У маладосці схіляўся да каталіцкага фанатызму, пэўны час хацеў стаць ксяндзом, але з 16 гадоў перакінуўся ў атэізм.

### 12 ВЕРАСНЯ

**1945 год.** Нарадзіўся **Рыгор Семашкевіч** (вёска Дамашы Маладзечанскага раёна), паэт, празаік, літаратуразнавец, крытык.

**1929 год.** Памёр **Яніс Райніс**, латышскі грамадскі дзеяч, паэт, драматург, перакладчык. Абараняў інтарэсы беларусаў Латвіі, спрыяў беларускай адукацыі і культуры.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Дом, дзе пішуцца творы і жыве гісторыя

МАЛАДЗЕЧНА

**Пакой мастака і выкладчыка цымбалаў Юрася Церабуна нагадвае выставу ў музеі. Адзінае адрозненне, што пра кожны твор мастацтва, пра кожную рэч гаспадар можа расказваць гадзінамі.**



Юрась Церабун жыве ў пакоі, дзе кожная рэч мае сваю гісторыю і свой лёс. На сценах абразы, карціны і дарагія сэрцу рэчы.



Карціна мастачкі Антаніны Няверы з казамі і вясёлкай. Намаляваная па просьбе Юрася Церабуна.



Домік зрабіў вучань мастака Юрась Былінскі. Аднойчы хлопчык спазніўся на ўрок. На пытанне, чаму, хлопчык адказаў: “На вятры трапятаўся апошні восеньскі лісточак, хацеў паглядзець, як ён адарвецца і паляціць.



На сцяне вісіць клубочак ільняных нітак, якімі ткала маці мастака Антаніна Антонаўна Церабун.



Імбрык незвычайнай формы – аўтарскі падарунак мастаку з Францыі. Увогуле ў Юрася Церабуна вялікая калекцыя керамікі.



Партрэт любімага мастака і кампазітара Мікалоюса Чурлёніса. Графічная выява нагадвае струны, якія вібрыруюць. Аўтар – Юрась Церабун.



Боцікі праўнука Пеці. Юрась Церабун узгадвае, як спытаўся ў праўнука, ці будзе ён есці. “Не, мне и так её много запихивают”, адказаў хлопчык.



Скульптура “Купалле” аўтарства Уладзіміра Церабуна магла стаяць на плошчы ў Маладзечне, але конкурс выйграла скульптура Уладзіміра Жбанава.



На мядзведзіку, якога мастак знайшоў на вуліцы, – смаргонскія абаранкі. Пра тое, чаму абаранкі апынуліся на сцяне, вы прачытаеце ў наступным нумары.



Кара старога дрэва з Залесся ўпрыгожыла сцяну ў калідоры. У наступным нумары мы працягнем разглядаць экспанаты калекцыі Юрася Церабуна.



Партрэт рыбака Ядвігі Раздзялоўскай хутка пераедзе ў Францыю да сына Юрася Васільевіча.

**Старонку падрыхтавала Наталля ТУР.**

**Працяг будзе.**

ТЭМА НУМАРА

# Хочаце багаты ўраджай бульбы – раз на тры гады мяняйце насенне

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі гаворка ідзе пра бульбу, чамусьці ўспамінаецца Тося з фільма "Дзяўчаты", якая казала, што бульба – гэта вам не проста так.**



Сямён Кацуба лічыць, што беларускія гатункі бульбы, такія як "Маніфест", "Брыз", "Першацвет", ні ў чым не саступаюць замежным. Фота Наталлі ТУР.

Дырэктар Маладзечанскай гатункавыпрабавальнай станцыі **Сямён Кацуба**, той, што месяцца ў Маркаве, у прынцыпе, з Тосяй быў салідарны і расказаў, што бульба – гэта не толькі сельскагаспадарчая культура, а цэлы космас. І трэба ведаць не толькі, калі яе пасадзіць, як захаваць на зіму, але і з якога гатунку лепш прыгатаваць пюрэ, а якую пакінуць на чыпсы.

### "Брыз", "Маніфест" і "Скарб" – з гэтымі гатункамі зімой без бульбы не застаняцеся

Каму ж яшчэ давяраць у пытанні вырошвання бульбы, як ні чалавеку, які штогод выпрабоўвае да 50 гатункаў бульбы?

Сямён Мікалаевіч расказаў, што на амаль 30 гектарах выпрабаванні праходзяць гатункі беларускай, нямецкай, галандскай і іншых селекцый.

– Цягам трох год мы выяўляем лепшыя гатункі па ўраджайнасці, устойлівасці бульбы да захворванняў і па мэтавым яе выкарыстанні.

Мэтавае выкарыстанне бульбы – гэта такая разумная назва таго, за што мы, уласна, і любім бульбачку на вячэру: ці разварыстая яна, ці вадзяністая, ці будзе ў яе смачная падрумяненая скарыначка.

Сямён Мікалаевіч расказаў, што разварыстасць бульбы залежыць ад таго, ці шмат у ёй крухмалу. Чым яго больш – тым больш бульба разварваецца.

– Але гэта не значыць, што такая бульба будзе самая лепшая. Гаспадыні выбіраюць такую бульбу, бо з яе атрымоўваецца мяккае пюрэ. А калі трэба бульбу ў салату? Хочацца ж бачыць, што там кавалачкі бульбачкі, праўда?

Ёсць гатункі, у якіх высокае ўтрыманне рэдуцыраваных цукроў. Страшнае слова, праўда? А значыць яно тое, што чым больш у бульбе тых цукроў, тым у ёй скарыначка хутчэй запякаецца.

– Дык вось бульба з высокім утрыманнем цукроў на чыпсы ці фры не пойдзе, бо ў гэтых прадуктах бульбачка павінна быць залацістая.

Сямён Мікалаевіч абараняе гатункі беларускай селекцыі:

– Яны нічым не горшыя за галандскія. І да розных шкоднікаў больш устойлівыя. Раю пакаштаваць гатункі "Брыз" і "Маніфест". Яны раннеспелыя. Бульба гэтых гатункаў не разварваецца, але па ўраджайнасці яны найлепшыя.

**Толькі 7-10% бульбы праходзяць выпрабаванне селекцыянерамі.**

Астатнія адбракоўваюцца, бо ці няўстойлівыя да захворванняў, ці непрыдатныя для захоўвання.

– "Брыз" і "Маніфест" можна купіць у нас. Цяпер цана за кілаграм меней за 30 капеек. І з наступнага тыдня яна пачне падаць. Вясной жа бульбу амаль 40 гатункаў можна купіць у нас на насенне.

Вырашчаную бульбу ў Маркаве амаль усю распрадаюць.

– Нашу бульбу ядуць у санаторыях, дзіцячых садках, вайсковых часцях. Ёй жа забяспечваем амаль усё Маркава і бліжэйшыя вёскі.

Гатункавыпрабавальная станцыя займаецца не толькі бульбай. Тут вырошчваюць і ацэньваюць гатункі агуркоў, памідораў, перцаў, пятрушкі, капусты, цыбулі.

Але пра гэта іншым разам, таму што, мяркуем, вам цікава будзе даведацца, як трэба прафесійна вырошчваць бульбу, каб яна радавала сваім ураджаем.

### Бульбу садзім толькі ў перапрэлы гной

Тое, што ў традыцыі беларусаў садзіць бульбу на майскія святы, вядома ўсім.

Але Сямён Мікалаевіч запэўнівае, што бульбу трэба садзіць у глебу, якая прагрэлася на 10 градусаў.

Але проста пакідаць бульбу у зямлю і чакаць добрага ўраджаю – гэта фантастыка.

**Спецыялісты раяць перад тым, як пасадзіць бульбу ў зямлю, пратравіць яе інсектыцыдамі і фунгіцыдамі.**

Такая работа перад пасадкай пазбавіць вас ад неабходнасці змагацца са шкоднікамі падчас вегетацыі.

– Гаспадары ведаюць, што рабіць з бульбай, пакуль яна расце, калі яе абганяць і калі збіраць. Адзінае, што, магчыма, камусьці будзе ў навінку, магу параіць, калі бульбоўнік пачынае сохнуць, апрацаваць яго "Рэглонам". Бульбоўнік пасохне, расліна не будзе на яго траціць сілы, а клубні будуць яшчэ расці.

Сямён Мікалаевіч адкрыў яшчэ адну таямніцу.

**Памеры бульбы не залежаць ні ад гатунку, ні ад угнаенняў, а толькі ад таго, наколькі рэдка або густа яна пасаджаная.**

– Раннеспелыя гатункі можна садзіць гусцей, познія – радзей. І чым радзей пасаджаная бульба, тым большыя клубні вырастуць.

Яшчэ адна парада ад спецыялістаў тычыцца таго, як захаваць бульбу на ўсю зіму.

– Бульба, выкапаная з зямлі, павінна астыць. Нельга яе адразу адпраўляць на захоўванне. Трэба, каб пару дзён паляжала на сонцы, высахла. І тады, калі яе захоўваць пры тэмпературы ад 1 да 5 градусаў, яна спакойна праляжыць да 200 дзён.

А вось каб быў стабільна высокі ўраджай, трэба раз на тры гады мяняць насенне вашай бульбы.

– У бульбе назапашваюцца розныя вірусы, тля. Яны і прыводзяць да таго, што бульба хварэе і дае нізкі ўраджай. Абнаўляйце гатункі. І ўсё будзе добра.

### Дзякуючы нам, участковыя выконваюць план па штрафах

– А ў нас ёсць аддзел, які дэгустуе бульбу. Бульба дэгустуецца без солі і без селядца. Мае супрацоўнікі бульбу розных гатункаў адварваюць роўна 30 хвілін і садзяцца яе каштаваць. Механізм такі: кожнаму гатунку бульбы надаецца нумар. І далей па спісе ацэньваецца, якога яна колеру, як разварваецца, наколькі глыбокія ў бульбы вочкі, колькі ў ёй крухмалу і гэтак далей. Кожную бульбіну эксперт запівае глытком моцнага несалодкага чаю.

Ёсць на гатункавыпрабавальнай станцыі і лабараторыя, якая можа вызначыць гатунак бульбы па яе ДНК.

– Мы дапамагаем выяўляць нядобрасумленных пастаўшчыкоў, якія завозяць хворую бульбу.

А палямі, дзе расце бульба і гародніна, можна любавацца бясконца. Мора капусты, бульбы, цыбулі! Але ў галаву лезе думка:

– **Ці не крадуць вашу гародніну?**

– А як жа! Амаль кожны дзень ловім зладзеяў. Участковыя, праўда, задаволеныя. Яны, дзякуючы нам, у перадавіках у працы. На палях кругласутачна дзяжурыць вартаўнік. Але мы часта даруем. Зловім злодзея, пагутарым з ім, што нельга так, і адпускаем. Але калі крадуць мяхамі, то тут, выбачайце, аддадзім міліцыянерам!

**Наталля ТУР.**

*Аўтарская калонка*

Сяргей УЛАДЫКА

## На полі не было футбола, толькі рухі целаў футбалістаў

**А хто там ідзе, а хто там ідзе У агромністай такой грамадзе?"**

Падчас прагляду матча паміж ФК "Маладзечна-ДЮСШ" і "Ашмянамі" ў маёй галаве раз-пораз круціліся гэтыя, напісаныя **Янкам Купалам**, радкі.

Справа, напэўна, у тым, што на полі не было футбола, а значыць, выдаўся выдатны выпадак падумаць пра паэзію. А вось чаму не было футбола, перш за ўсё ў выкананні маладзечанцаў, – пытанне, над якім добра было б задумацца.

Пару месяцаў таму, пасля кубкавай гульні з "Крумкачамі", напісаў, што мы, жыхары горада, любім сваю каманду не за нейкія там уменні (іх няма), а за самааддачу і неабыякавасць да гульні нумар адзін. Аднак суботні матч прымусіў сумнявацца: ці была мая праўда?!

**Усё можна даравацьфутбалісту, акрамя аднаго – абыякавасці. Калі яму, гульцу, нічога не трэба тут і цяпер, калі яму напляваць на канчатковы вынік, то для чаго мне сядзець на трыбунах і глядзець на рухі яго цела?**

Калі б маладзечанскі заўзятар галасаваў рублём, то пасля некалькіх гульняў, падобных матчу з "Ашмянамі", трыбуны стадыёна маглі істотна апусцець. Зрэшты, далёка не факт, што гэтая акалічнасць калі-небудзь азадачыла б галоўных дзеючых асоб.

Аб самой гульні няма чаго сказаць. Было шмат памылак, была інтрыга, калі зыходзіць з таго, як мяняўся лік, але не было таго нерва, за які мы любім футбол.

На 24-й хвіліне **Кошаль** скарыстаўся вельмі грубай памылкай абароны прыезджай каманды, выйшаў самнасам з варатаром і чарпаком адправіў мяч у сетку варот гасцей. Лік стаў 1:0.

На 36-й хвіліне, пасля падачы вуглавога, гаспадары зноў вызначыліся – запіхнулі мяч у вароты намаганнямі **Лукашова**. Але праз хвіліну **Галгоўскі** пайшоў лавіць паветра на выхадзе, дзякуючы чаму нарадзіўся першы і надта лёгкі гол у адказ.

Тым не менш, на перапынак пайшлі ў добрым настроі, за што варта дзякаваць Галубовічу – менавіта ён на 45-й хвіліне добра злавіў мяч на нагу і метраў з 23-х адправіў яго ў правы вугал.

На гэтым усё добрае для гаспадароў у той дзень скончылася. Пачаўся парад памылак і невыразных дзеянняў, у выніку якіх здарыліся прапушчаныя галы на 49-й, 50-й, 57-й хвілінах.

Табло зафіксавала выніковыя 3:4, а ў вачах гледача, калі захацець, можна было б убачыць ці то расчараванне, ці то крыўду, якую яны пакорліва, стройным балельшчыцкім раўчуком панеслі кожны сабе дадому.

– А хто там ідзе, а хто там ідзе

У агромністай такой грамадзе?

– Беларусы.

### Турнірная табліца. Другая ліга

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ЮАС | 18 | 12 | 5 | 1 | 38-10 | 41 |
| 2 | Чысць | 18 | 13 | 2 | 3 | 55-19 | 41 |
| 3 | Клецк | 18 | 12 | 1 | 5 | 43-25 | 37 |
| 4 | Спадарожнік | 18 | 9 | 4 | 5 | 34-17 | 31 |
| 5 | Вікторыя | 18 | 9 | 4 | 5 | 35-21 | 31 |
| 6 | Ашмяны-БДУФК | 18 | 11 | 2 | 5 | 67-23 | 30 |
| 7 | Маладзечна-ДЮСШ | 18 | 8 | 5 | 5 | 37-24 | 29 |
| 8 | Любань | 18 | 6 | 3 | 9 | 29-48 | 21 |
| 9 | СМІ-Аўтатранс | 18 | 6 | 2 | 10 | 28-43 | 20 |
| 10 | Узда | 18 | 5 | 4 | 9 | 33-44 | 19 |
| 11 | Энэргетык-БДАТУ | 17 | 4 | 4 | 9 | 28-35 | 16 |
| 12 | Зборная ТФ | 18 | 4 | 3 | 11 | 23-54 | 15 |
| 13 | СДЮШАР-8 | 17 | 3 | 1 | 13 | 17-55 | 10 |
| 14 | СДЮШАР-3 | 18 | 3 | 0 | 15 | 18-67 | 9 |

Хацця ў турніры і ўдзельнічала больш хлопчыкаў, перамога дасталася дзяўчынцы.

Оля Трус. Віктар Акотчык. Віталь Качаткоў. Эдуард Качаткоў.

# Пераможца турніру "РГ": дзякуючы шахматам лягчэй вучыць вершыкі

**На шахматным свяце сярод амаль адных хлопчыкаў удзельнічалі толькі дзве дзяўчынкі – Оля і Аліса, і перамагла адна з іх.**

Турнір, які адбыўся 2 верасня, арганізавалі "Рэгіянальная газета", шахматны клуб "9 ферзяў" пад кіраўніцтвам **Віктара Акотчыка** і аўтар шахматнай рубрыкі ў "РГ", майстар спорту па шахматах РБ **Віталь Качаткоў**.

Напачатку для ўдзельнікаў правялі віктарыну. Маладым шахматыстам прапанавалі адказаць на пытанні, звязаныя з фактамі пра шахматы. Многія з іх былі вядомыя з рубрыкі "Шахматы з Віталем Качатковым". Праверыць сябе і адказаць на пытанні вы зможаце напрыканцы артыкула.

Пасля перад шахматыстамі выступіў **Эдуард Качаткоў**, якога з чатырох год трэніраваў бацька Віталь Качаткоў. Хацця ў хлопца і быў этап, калі ён не займаўся гэтым відам спорту, пасля ўсё ж вярнуўся да яго. Эдуард сёлета паступіў на юрыдычны факультэт БДУ і упэўнены, што шахматы ў многім дапамаглі і яшчэ дапамогуць.

Віталь Качаткоў распавёў, што культура шахмат дапамагае развіваць інтэлектуальны патэнцыял грамадства.

Пасля ўдзельнікі змагаліся паміж сабой у турніры, прызам па выніках якога стаў торт. Оля перамагла амаль усіх удзельнікаў, і толькі Аліса у спаборніцтве з лідарам узяла перамогу.

Вольга Трус, пераможца турніру, вучыцца ў 9 "Б" гімназіі №7 Маладзечна. Дзяўчына толькі на гэтым тыдні вызначылася з будучай прафесіяй – плануе вучыцца на эканаміста.

Да шахмат яна прыйшла ў сем год. У школу завітаў Віктар Акотчык, прапанаваў дзецям наведваць клуб. Яна сама захацела і пачала хадзіць на трэніроўкі. Быў у дзяўчынкі і перапынак. Ад 9 да 11 год яна шахматамі не займалася ўвогуле, таму што пасварылася з трэнерам.

Праз два гады аднакласнік пачаў хваліцца, што ездзіў на спаборніцтвы. І пры гэтым, мяркуе Оля, гуляў ён так сабе. Пасля гэтага дзяўчынка вярнулася ў спорт.

Дзякуючы шахматам стала крыху прасцей вучыцца, асабліва запамінаць вершыкі. Ад 5 да 10 год Оля займалася гімнастыкай і маляваннем, але пасля з захапленняў засталіся толькі шахматы. А галоўная шахматная мэта – стаць пераможцай спаборніцтваў рэспубліканскага ўзроўню. Пакуль яе лепшы вынік – трэцяе месца, якога Оля дасягнула ў восем год.

У дарослым жыцці дзяўчына хацела б пакінуць месца для шахмат, гуляць у сяброўскія партыі. Але з акружэння школьніцы гуляе толькі тата. І яна яго ўжо абыгрывае.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Фота аўтара.**

### Шахматная віктарына

1. Краіна – радзіма шахмат. 2. Імя каралевы, якая стала ініцыятарам, каб ферзь стаў самай моцнай фігурай. 3. У якой краіне знайшлі самы стары набор шахмат. 4. Фігуры з гэтага самага старога набора сталі прататыпам шахмат у адным фільме. Якім? 5. Слова "шахматы" паходзіць ад персідскіх "шах" і "мат". Як яны перакладаюцца? 6. Кім быў па прафесіі чалавек, які прыдумаў складную шахматную дошку і для чаго ён яе зрабіў менавіта такой? 7. Тэарэтычна колькі ходаў можа быць ў самай доўгай партыі? 8. Нядаўна стварылі новы від спорту, у якім злучылі два добра вядомыя – шахматы і... Як называецца новая гульня?

**Адказы**

1. Індыя. 2. Ізабэла Іспанская. 3. У Шатландыі. 4. "Гары Потэр і філасофскі камень". 5. Кароль памёр, кароль у пастцы, каралю не збегчы. 6. Манах. Гульня ў шахматы ў сярэднявечча была забароненая для манахаў. Таму адзін з іх і прыдумаў схаваць шахматную дошку ў складзеным выглядзе, каб яна была падобная да кнігі. 7. 5 949. 8. Шахматы і бокс. Гульню называюць шахбокс.



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Творчы работнік у галіне выяўленчага мастацтва.
5. Верны сябра Мальвіны.
6. Так будзе на грэчаскай мове "закон страўніка".
7. Музычна-драматычны твор, у якім выканаўцы спяваюць у суправаджэнні аркестра.
10. Адзін хуткі рух у паветры чым-небудзь.
11. Платон казаў: "Лёгка знайсці прыклады прыгожага, але складана іх …".
12. Райцэнтр – паўднёвы сусед Маладзечна.
13. Пабуджальная прычына.
17. Невялікі (звычайна квадратны) кавалак тканіны або паперы, якім карыстаюцца для засцеражэння адзення ў час яды.
18. Пімен Панчанка: "Той дзень прапаў і страчаны навекі, Калі ты не зрабіў таго, што мог; Калі не паспрыяў ты чалавеку, Няшчыры быў, …, не дапамог".
19. Вузкі паток вады.
21. У Іспаніі – гверыльязы, у Францыі – макі, у Малдавіі і Венгрыі – гайдукі. А як іх называюць у Беларусі?
23. Невялікая сажалка, запруда.
24. У гэтай краіне кажуць жартам, што, прыязджаючы да іх, трэба паспець затармазіць.
25. Як па-грэчаску будзе "вапна".
28. Гэтым словам, якой знайшло сваё прымяненне ў сістэме вышэйшай адукацыі, у старажытнарымскіх войсках ён быў начальнікам над дзесяццю салдатамі.
29. Джамна, Сон, Дамадар. Што іх аб'ядноўвае?
31. Як па-лацінску будзе "які збіраецца сыходзіць".
32. Маленькая рыбка сямейства корушкавых, з падоўжаным і сплюснутым з бакоў целам.
33. Вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла.
34. У якім дзіцячым аздараўленчым цэнтры нашага рэгіёна адпачываюць дзеці з Сірыі?

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Кантора, канцылярыя, служба.
3. У ім сто араў.
4. Мяркуецца, што гатунак гэтага малочнага прадукту вынайшлі манахі. Ён павінны быў перасцерагаць ад граху абжорства, да таго ж захоўваўся значна даўжэй за астатнія гатункі, што аблягчала работу кухарам. Датай яго стварэння лічаць 12 стагоддзе.
8. На правілы гэтай фігуры настольнай гульні паўплывала каралева Ізабэла Кастыльская.
9. Высушаны кавалак хлеба.
14. У казцы "Аліса ў краіне цудаў" ёсць такая фраза: "Калі разам асушыць бутэлечку з гэтай паметкай, рана ці позна адчуеш сябе нядобра". Што напісана на бутэлечцы.
15. Вецер, які летам дзьме з мора на сушу, а зімой з сушы на мора.
16. Прадукт размолу збожжа.
19. Гэты карысны выкапень з'яўляецца адным з найважнейшых відаў прамысловай сыравіны. Астатнія чатыры – вугаль, вапна, нафта, сера.
20. Сын Гіпноса, унук Ночы.
22. Лёгкі парашок белага колеру, які з'яўляецца вокісам або соллю магнію (выкарыстоўваецца ў медыцыне).
25. Як называецца геаметрычная фігура, утвораная зямлёй.
26. У футболе – штрафны ўдар па варотах праціўніка з адлегласці 11 метраў.
27. Сукупнасць прыёмаў, якія здольныя, паводле забабонных уяўленняў, выклікаць звышнатуральныя з'явы.
30. Назавіце імя літаратурнага персанажа, які спрабаваў напісаць дысертацыю на тэму "Святарам ніжэйшага сану патрэбныя для блаславення абедзве рукі".
33. Машына, якая ператварае розныя віды энергіі ў механічную; рухавік.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №35. Па гарызанталі.** 1. Капейка. 3. Міраж. 4. Засечка. 6. Лемуры. 8. Азімут. 9. Адказ. 14. Сана. 15. Лежня. 16. Кабыльнік. 17. Сляза. 18. Антураж. 20. Логіка. 23. Карфаген. 25. Манекен. 28. Ліха. 29. Ажур. 31. Зарок. 35. Альбом. 36. Хімія. **Па вертыкалі.** 2. Юпітэр. 4. Зверабой. 5. Жым. 7. Фабрыка. 10. Засуха. 11. Паэзія. 12. Летапіс. 13. Левіяфан. 19. Зацірка. 20. Легат. 21. Лох. 22. Запруда. 24. Вакса. 26. Адкат. 27. Жменя. 30. Жэле. 32. Імёны. 33. Аканом. 34. Акцыз. 37. Камень.

## ГАРАСКОП 8-14 ВЕРАСНЯ



**АВЕН**. Вучыцеся давяраць людзям, не прыніжайце іх. Вядзіце барацьбу са сваімі негатыўнымі рысамі характару, асабліва перавагай над іншымі, гардыняй.



**ЦЯЛЕЦ**. Не давайце волю страхам і забабонам, яны могуць сур'ёзна атруціць ваша жыццё. Не бярыце на сябе чужыя праблемы і нічога не адкладвайце на потым. Смела пачынайце новыя справы.

**БЛІЗНЯТЫ**. Дапамажыце таму, хто папросіць вас аб гэтым. І нічога не рабіць на шкоду сабе, бо некаторыя могуць пакарыстацца вашай даверлівасцю і жаданнем быць карыснымі. Звярніце ўвагу на тое, як складваюцца вашы адносіны з блізкімі, цяпер ёсць шанец вырашыць даўнія праблемы, узнавіць узаемаразуменне.



**РАК**. Ува ўсіх вас перыяд насычаны падзеямі, жыццё паляпшаецца, ідзе ўгору, здароўе не падводзіць. Жывіце і радуйцеся жыццю. Вы як ніхто іншы надзеленыя інтуіцыяй і ўменнем практычна наскрозь бачыць чалавека. Гэта будзе вам вельмі дарэчы.



**ЛЕЎ.** Пры вырашэнні важных пытанняў не спяшайцеся, бо над якім бы вы пытаннем ні ламалі галаву, памятайце: першае рашэнне, якое здаецца відавочна правільным, на самой справе будзе памылковым. Таму абдумайце сітуацыю, прыміце да ведама дробныя дэталі.



**ДЗЕВА**. Вам карысная інтэлектуальная праца. Па вечарах замест тэлевізара паразгадвайце красворды, можна патраціць час на любыя галаваломкі.



**ШАЛІ**. Вас чакаюць сур'ёзныя перамены, якія могуць быць нават трагічнымі. Расставанне з блізкімі людзьмі, змена месца жыхарства ці карэннае змяненне сваіх поглядаў. Адзіны спосаб перажыць гэта – прыняць іх. Знайдзіце ў сабе сілы пагадзіцца з тым, што адбываецца.



**СКАРПІЁН**. Крыніцай натхнення стане любімая работа. Нават калі яна забярэ шмат сіл і часу, затое падорыць маральнае задавальненне і добрае матэрыяльнае ўзнагароджанне.



**СТРАЛЕЦ**. Усё ў вас атрымаецца. Звярніце ўвагу на тых, хто падтрымлівае, знаходзіць патрэбныя словы, дае добрыя парады – менавіта такія людзі могуць стаць надзейнымі саюзнікамі і сапраўднымі сябрамі. Можна і трэба праяўляць ініцыятыву, выступаць з дзелавымі прапановамі, прапаноўваць супрацоўніцтва новым партнёрам.



**КАЗЯРОГ**. У вас можа ўзнікнуць адчуванне, быццам свет рушыцца вакол вас. Не накручвайце сябе. Супакойцеся, гэта праходзіць. На выхадныя больш увагі ўдзяліце сабе.



**ВАДАЛЕЙ**. Перыяд павышанай фізічнай актыўнасці. Вы будзеце ствараць уражанне чалавека надзвычай занятага. Вам можа спатрэбіцца фінансавая падтрымка для рэалізацыі нейкай задумы. Смела звяртайцеся да сяброў ці радні – на адносінах гэта ніяк не адаб'ецца.



**РЫБЫ**. Дружная і добразычлівая псіхалагічная атмасфера дома дазволіць вам усім разам вырашаць любыя бытавыя пытанні. Вы з лёгкасцю разам зможаце, зрабіць рамонт у адным з пакояў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 3 | | | | | | | |
| | | | 1 | | 3 | 4 | | |
| 8 | 6 | | | 4 | 9 | | | 3 |
| | | 8 | | | 5 | | | |
| 3 | | | | | | | | 2 |
| | | | 7 | | | 8 | | |
| 5 | | | 4 | 7 | | | 8 | 6 |
| | | 7 | 3 | | 2 | | | |
| | | | | | | | 7 | 1 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

## 9 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +16 | | +11 / +20 | | +13 / +20 | | +17 / +22 | |
| | 736 | → 6 | 737 | ↑ 6 | 735 | ↑ 6 | 733 | ↑ 3 |
| Вільня | +8 / +15 | | +12 / +19 | | +15 / +24 | | +19 / +21 | |
| | 741 | ↗ 5 | 741 | ↗ 7 | 739 | ↑ 5 | 737 | ↑ 6 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Цiск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.36
Захад 19.43
Даўжыня дня 13.07

Усход 18.13
Захад 1.52
Квадра 2

| | | | |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +12 / +19 | 746 | ↗ 6 |
| Гродна | +12 / +20 | 744 | ↗ 7 |
| Мінск | +11 / +20 | 737 | ↑ 6 |
| Магілёў | +10 / +19 | 742 | ↑ 4 |
| Брэст | +13 / +22 | 743 | ↑ 5 |
| Гомель | +12 / +21 | 749 | ↗ 4 |

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +4,5 °C у 1986 годзе
Максімальная тэмпература +27 °C у 2005 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 75,8 мм у 1990 годзе
Паводле meteoinfo.by

● КУДЫ ПАЙСЦІ

## Фестываль-кірмаш "Смаргонскія абаранкі" запрашае

СМАРГОНЬ

16 верасня ў Смаргоні адбудзецца фестываль-кірмаш традыцыйных Смаргонскіх абаранкаў.

Пакуль у райвыканкаме за "круглым сталом" спецыялісты будуць гутарыць на тэму "Захаванне і развіццё нацыянальных традыцый вытворчасці абаранкаў", госці фестывалю змогуць пачаставацца абаранкамі, паўдзельнічаць у конкурсах, паслухаць канцэрт, набыць сувеніры і падарункі ад народных майстроў. А ў 23:00 стаць сведкамі святочнага вогненнага шоу.

**Наталля ТУР.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Першае дзіця – усё мыем, прасуем, кіпяцім. Другое дзіця – усё мыем, часам прасуем, глядзім, каб дзіця не ела з міскі ката. Трэцяе дзіця – калі дзіця паела з міскі ката, гэта праблемы ката.

***

– З гэтай хвіліны ты забываешся пра займеннік "я" і "мне". Цяпер толькі "мы" і "нам". Зразумела?

– Зразумела. Нам тэрмінова патрэбныя асеннія боцікі на абцасах.

***

Праз некалькі месяцаў пасля знаёмства:

– Каханы, можа, ужо час табе пазнаёміць мяне са сваімі роднымі?

– Нават не ведаю, што рабіць. Жонка – на лецішчы, дзеці – у цешчы.

***

– Тата, я зноў у школе шкло пабіў.

– У вас там не школа, а аранжарэя нейкая.

***

Школа. Урок працы.

– Асноўнае правіла бяспекі – пальцы ў рэзетку не сунуць.

– Дык яны ж туды не залазяць.

– А ты цвікі вазьмі!

***

Здаецца, даўно ўжо скончаныя школа і ўніверсітэт, а мяне ўсё не пакідае пытанне: а кім я стану, калі вырасту?

***

Сын настаўніка працы і настаўніцы музыкі скончыў школу з дзвюма дзясяткамі.

У садку я марыў пра школу, у школе – пра інстытут, у інстытуце – аб працы. Эх, ну вось чым мне дрэнна ў садку было?

***

– Ты так схуднела. Гэта новая дыета?

– Так. Бульба, морква, буракі...

– А што рабіла? Варыла ці смажыла?

– Капала!

***

Пенсіянерка Пятрова на экскурсіі вайсковых фігур тры гадзіны жалілася Сталіну на жыццё.

***

Супрацоўнік банка кліенту:

– Назавіце нумар і серыю пашпарта.

– Майго?

– Калі зможаце, назавіце майго.

***

– А ты па казярогу хто?

– Відаць, гараскоп.

***

Мая дзяўчына на вяселлі злавіла букет нявесты. Не ведаю, як мы будзем сустракацца, калі яна выйдзе замуж?

***

Калі б дзяржавамі кіравалі жанчыны, войнаў не было б. Было б шмат краін, якая адна з адной не размаўляюць.

***

Фатограф на вяселлі:

–А дзе ж наша шчаслівая пара?

– Ды вось яны: нявеста і яе мама.

***

Жанчына ў аптэцы

– Што лепш для мужа валідол ці валяр'янка?

– А дыягназ які?

– Туфлі за 250 рублёў.

## Чытайце праз тыдзень:

● Ці не хацелі б вы зарабіць адзін мільён долараў? Гэта прасцей, чым вы думаеце. Трэба ўсяго толькі вырашыць адну шахматную задачу. Якую? Чытайце у наступным нумары.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№36 (1167) 8.09.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 847. Падпісана ў друк у 9.00 7.09.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

## Якія гатункі бульбы вы ведаеце і якія стравы з яе любіце?

**Дар'я Шалуха, выхавальніца:**

– З гатункаў з дзяцінства памятаю толькі "Ласунак". Стравы з бульбы гатуем часта. Раз у два дні дакладна. Любім бабку і бульбу, запечаную ў духоўцы.

**Юлія Дуровіч, лагіст:**

– Гатункаў не ведаю ніякіх. Маці і свякроў больш "у тэме", маюць нават спецыяльную адукацыю. З бульбы часцей гатуем дранікі, пюрэ. Таксама смажым і запякаем яе.

**Андрэй Мартынаў, кіроўца:**

– Ведаю, што бывае бульба ружовая, а бывае жоўтая. Сам магу яе толькі зварыць. Больш складаныя стравы робіць жонка, напрыклад, бульбяныя клёцкі.

**Вольга Шляпо, намеснік дырэктара Палаца культуры:**

– Добра ведаю гатункі "Ласунак", "Скарб", "Адрэта". Летам у сям'і любяць вараную маладую бульбу, восенню – дранікі, а зімой – тоўчаную. Калі бываем у вёсцы ў мамы, то лепшая страва – гэта запечаная ў печы бульба з румянай скарыначкай.

**Раман Занковіч, вартаўнік:**

– "Скарб", "Ласунак". Гатуем з бульбы шмат. Асабліва фры люблю. Кажуць, што шкодна. Але часам не магу адмовіцца.

**Наталля Міхалевіч, студэнтка:**

– З гатункаў ведаю "Адрэту", "Скарлет", "Ласунак". У сям'і гатуем дранікі, бульбу па-вясковаму, пюрэ, бульбу, запечаную з мясам.

**Міхаіл Кулеш, фатограф:**

– Пра гатункі нічога не скажу. Са страў мы любім калдуны, цэпеліны, дранікі з мясам і без мяса, бульбу тушаную з грыбамі, з мясам, вараную і тоўчаную са смажанымі скваркамі і цыбуляй, бульбу у лупінах, бульбяныя катлеты і шмат яшчэ чаго.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**